

"Каб усе былі адно" (Ян 17, 21)

# Царква

№ 3 (50), 2006
15 верасьня

НОВЫ ЦАРКОЎНЫ ГОД

## "БУДЗЬЦЕ МУЖНЫМІ! ІДЗІЦЕ НАПЕРАД з мужнасьцю, якая паходзіць ад Бога"



Полацак, 16.07.2006. Апостальскі Нунцый прамаўляе да ўдзельнікаў XII Пілігрымкі ў гонар Полацкіх мучанікаў (Гл. матэрыялы на с. 2-3).

## У нумары:



***"Гісторыя Беларусі шчыльна зьвязана з дзейнасьцю вядомых уніяцкіх дзеячаў, якія спрычыніліся да разьвіцьця духоўнасьці і культуры, садзейнічалі фармаваньню лепшых традыцыяў адукацыі і асьветы"***

З ліста Камітэту па справах рэлігій і нацыянальнасьцяў пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь з нагоды 15-годдзя адраджэньня пастырскай дзейнасьці БГКЦ у Беларусі. 12.07.2006.



*На свой 80-гадовы юбілей Апостальскі Візітатар для беларусаў замежжа а. Аляксандар НАДСАН атрымаў ня толькі шчырыя віншаваньні ўдзячных вернікаў, але таксама каштоўны падарунак – прыгожа аздобленае напрастольнае Евангельле, якое ўжо назвалі Лонданскім (на фота зьлева).*



# “Ідзіце наперад з мужнасьцю, якая паходзіць ад Бога”

***Гэтымі словамі блаславіў удзельнікаў XII Пілігрымкі беларускіх грэка-католікаў з Віцебску ў Полацак Апостальскі Нунцый у Беларусі Найдастойны Архібіскуп Марцін Відавіч, які сьпецыяльна прыбыў 16 ліпеня 2006 году ў Полацак, каб удзельнічаць у заканчэньні пілігрымкі.***

Дэвізам сёлетняй пілігрымкі, якая праходзіла з 12 па 15 ліпеня, былі біблійныя словы “Будзьце стойкімі ў веры” *(1 Кар 16, 13)*. Вернікі з розных куткоў Беларусі, а таксама госьці з Украіны і Расеі прайшлі з Віцебску ў Полацак праз Слабаду, Шуміліна, Обаль, Гараны і Струньне. Пераадольваючы пехатой больш за стокіламетровы шлях, яе ўдзельнікі, сярод якіх гэтым разам было асабліва багата моладзі, маліліся за далучэньне да сьпісу блаславёных тых сваіх папярэднікаў, якія не адракліся ад веры нават перад абліччам сьмяротнай небясьпекі – пяцёх манахаў-базыльянаў, закатаваных у полацкім Сафійскім Саборы ў 1705 годзе.

Боскую Літургію на заканчэньне XII Пілігрымкі беларускіх грэка-католікаў узначалілі Апостальскі Нунцый у Беларусі Архібіскуп Марцін Відавіч і Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыт Сяргей Гаек у саслужэньні сьвятароў візантыйскага і лацінскага абраду. Дыяканскае служэньне выконвалі новыя дыяканы БГКЦ а. Андрэй Буйніч і а. Алесь Шаўцоў.

Як адзначыў у сваёй гаміліі, скіраванай да шматлікіх вернікаў, што сабраліся на пляцы каля манастырскай царквы сьв. Параскевы, Яго Эксцэленцыя Архібіскуп Марцін Відавіч, сам Госпад паказвае нам, “што мы можам пераадолець кожны чалавечы страх і перамагчы бітву за веру”. Яскравы прыклад гэтаму – сьведчаньне веры сьвятых пакутнікаў Барыса і Глеба (нябесных апекуноў полацкай манаскай Супольнасьці студытаў), сьвятых полацкіх манахіняў Еўфрасіньні і Параскевы, а таксама мучаніцтва сьв. Язафата, Архібіскупа Полацкага і пакутніцкі подзьвіг пяцёх полацкіх манахаў-базыльянаў.

Асаблівым прыкладам мужнасьці быў жыцьцёвы шлях беларускіх грэка-каталіцкіх сьвятароў мінулага стагоддзя, чые імёны былі згаданыя Нунцыем падчас гаміліі. У іх ліку – архімандрыты Фабіян Абрантовіч і Андрэй Цікота, якія загінулі ў сталінскіх турмах, Апостальскі Адміністратар Антон Неманцэвіч, забіты ў Менску нямецкімі нацыстамі ў 1943 годзе. Каштоўным сьведчаньнем веры і любові было таксама самаахвярнае служэньне Апостальскага Візітатара для беларусаў Замежжа біскупа Чэслава Сіповіча, 25-ыя ўгодкі з дня сьмерці якога прыпадаюць акурат сёлета. *(Гл. тэкст гаміліі Нунцыя на с.2-3)*.

Падчас урачыстасьцў у Полацку адзначалася таксама 15-годдзе аднаўленьня душпастырскай дзейнасьці парафіяў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы. У віншавальным лісьце Камітэту па справах рэлігій і нацыянальнасьцяў пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, накіраваным з гэтай нагоды, адзначаны ўклад вядомых уніяцкіх дзеячаў, якія спрыялі разьвіцьцю беларускай духоўнасьці, культуры, адукацыі і асьветы.

Царкоўнае сьвята ў Полацку закончылася братэрскай агапай – манастырскім абедам для ўсіх пілігрымаў.

# ГАМІЛІЯ

## АПОСТАЛЬСКАГА НУНЦЫЯ Ў БЕЛАРУСІ

*Высокадастойнага Архібіскупа Марціна Відавіча*
*на завяршэньне XII Пілігрымкі беларускіх грэка-католікаў*
*Полацак, 16 ліпеня 2006 году*

Дарагія браты і сёстры ў Хрысьце!

**1** Ласка і мір усім вам, “што любіце Бога ды якія пакліканыя па Яго пастанове” *(Рым 8, 28)*; усім вам, што трымаецеся загадаў Божых і маеце сьведчаньне Ісуса *(пар. Адк 12, 17)*.

Толькі што мы чулі заклік Ісуса любіць адзін аднаго, як адзіны сапраўдны спосаб пераадолець нянавісьць сьвету супраць тых, што зьяўляюцца Ягонымі вучнямі *(пар. Ян 15, 17 – 16, 2)*. Ісус ізноў гаварыў пра гэта, не каб застрашыць, але каб дадаць нам адвагі. І каб паказаць, што мы можам пераадолець кожны чалавечы страх і перамагчы ў змаганьні веры, Ён абяцаў заставацца з намі аж да сканчэньня веку *(пар. Мц 28, 20)*. Гэта зрабіў Той, Які названы Верным і Праўдзівым *(пар. Адк 19, 11)*.

Падобнае заахвочваньне даў нам таксама Апостал Павел (Апостал Народаў). Ён склаў сьведчаньне, што Бог, Які ёсьць любоў *(пар. 1 Ян 4, 16)*, прызначыў нас да славы на нябёсах ды любіць нас, апраўдвае і кліча да непарушнай і сыноўскай надзеі *(пар. Рым 8, 28-39)*.

**2** Мы сабраліся тут, каб служыць Боскую Літургію ў нядзелю, дзень, у якім мы ўспамінаем Уваскрасеньне Госпада ў плоці і ў якім Бог “спачыў ад усіх дзеяў Сваіх, якія тварыў і ствараў” *(Быц 2, 3)*. Адначасова мы ўшаноўваем сёньня памяць Сьвятых мучанікаў Барыса і Глеба, вядомых як “страстацерпцы”. У сьвятле Сулучнасьці сьвятых, узгадваем нашых шматлікіх братоў, якія на працягу стагоддзяў склалі сьведчаньне Ісусу Хрысту на гэтай узьлюбленай зямлі. Сярод іх знаходзяцца: Сьвяты Архібіскуп Полацкі Язафат Кунцэвіч (+1623), мучанік за Еднасьць Царквы; Сьвятыя манахіні Еўфрасіньня (+1173) і Параскева Полацкія; Блаславёны сьвятамучанік Мікалай Чарнецкі (+1959).

У гэтай жа групе сьведкаў веры знаходзяцца таксама Слугі Божыя Фабіян Абрантовіч і Андрэй Цікота – архімандрыты-марыяне *(MIC)*, што

# Камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасьцяў павіншаваў БГКЦ

***Камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасьцяў пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь 12 ліпеня 2006 году накіраваў ліст-віншаваньне Беларускай Грэка-Каталіцкай Царкве з нагоды 15-годдзя аднаўленьня яе душпастырскай дзейнасьці ў Беларусі. У лісьце на імя Апостальскага Візітатара для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыта Сяргея Гаека гаворыцца:***

*«Камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасьцяў пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь віншуе Вас і ўсіх грэка-каталіцкіх вернікаў Беларусі з 15-годдзем адраджэньня пастырскай дзейнасьці ўніяцкіх цэркваў на нашай зямлі.*

*Гісторыя Беларусі шчыльна зьвязана з дзейнасьцю вядомых уніяцкіх дзеячаў, якія спрычыніліся да разьвіцьця духоўнасьці і культуры, садзейнічалі фармаваньню лепшых традыцыяў адукацыі і асьветы.*

*Дзяржава, мясцовыя выканаўчыя органы ўлады імкнуцца сёньня стварыць спрыяльныя ўмовы для разьвіцьця ўсіх канфесіяў на нашай зямлі, каб сумеснымі намаганьнямі служыць беларускаму народу, садзейнічаць яго духоўнаму і культурнаму росквіту.*

*Віншуем сьвятароў і ўсіх вернікаў з гэтай адметнай датай, жадаем росквіту, усяго добрага, духовай моцы і далейшых посьпехаў у справе служэньня Богу і Айчыне».*

Камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь
220029 г. Мінск, вул. Камуністычная, 11
тэл. факс (0172) 84 63 44

Комитет по делам религий и национальностей при Совете Министров Республики Беларусь
220029 г. Минск, ул. Коммунистическая, 11
тел. факс (0172) 84 63 44

12.07.2006 г.
на № ___ от ___

Апостольскому Визитатору
для греко-католиков Беларуси
Архимандриту Сергею Гаеку

Уважаемый отец Сергий!

Комитет по делам религий и национальностей при Совете Министров Республики Беларусь поздравляет Вас и всех греко-католических верующих Беларуси с 15-летием возрождения пастырской деятельности униатских церквей на нашей земле.

История Беларуси тесно связана с деятельностью известных униатских деятелей, которые способствовали развитию духовности и культуры, содействовали формированию лучших традиций образования и просвещения.

Государство, местные исполнительные органы власти стремятся сегодня создать благоприятные условия для развития всех конфессий на нашей земле, чтобы совместными усилиями служить белорусскому народу, содействовать его духовному и культурному процветанию.

Поздравляем священнослужителей и всех верующих с этой знаменательной датой, желаем процветания, всех благ, душевных сил и дальнейших успехов в деле служения Богу и Отечеству.

С уважением,

Заместитель Председателя В.Б.Ламеко

загінулі ў сталінскіх турмах за вернасьць Наступцы Сьвятога Апостала Пятра, Біскупа Рыму – першы ў 1946 годзе, а другі ў 1952 годзе; айцец Антон Неманцэвіч, езуіт *(SJ)*, Апостальскі Адміністратар, які загінуў у нацысцкай турме ў Менску ў 1943 годзе, а таксама пяцёра Пакутнікаў манахаў-базыльянаў, што былі замучаныя ў 1705 годзе ў катэдральным саборы Сьвятой Сафіі ў Полацку ды Біскуп Чэслаў Сіповіч, марыянін *(MIC)*, Апостальскі Візітатар для беларусаў замежжа, які памёр у Лондане ў 1981 годзе – 25 гадоў таму.

Рэч ідзе пра вялікае мноства людзей, якіх ніхто ня можа палічыць *(пар. Адк 7, 9)* і якіх гучныя воклікі хвалы, падзякі і пакланеньня разносяцца рэхам на нябёсах, таму што валадарства над сьветам было дадзена Госпаду нашаму і Яго Хрысту і будзе Ён валадарыць на векі вечныя *(пар. Адк 11, 15)*.

Складаючы падзяку Госпаду, радуемся таксама з іх прыкладу, які нас падбадзёрвае і напаўняе жывой надзеяй. У той жа час мы маем гонар як яны быць часткай Царквы; Царквы, якая "ёсьць сабраньнем усіх сьвятых" *(s. Nicetas Remesianae, Explanatio Simboli, 10: PL 52, 871B)*. Такім чынам асэнсоўваем той факт, што "менавіта Сулучнасьцю сьвятых ёсьць Царква" *(Катэхізм Каталіцкай Царквы, 946)*.

**3** Гэтай урачыстай Еўхарыстыяй завяршаецца XII штогадовая Пілігрымка вашай Каталіцкай Супольнасьці візантыйскага, інакш грэцкага, абраду, якая працягвалася пяць дзён, з 12 па 16 ліпеня. Ідучы па шляху з Віцебску да Полацку, вы прайшлі шмат сьвятых беларускіх сьцяжын, наведаўшы Слабаду, Шуміліна, Обаль, Гараны і Струньне, каб даць жывое сьведчаньне вашай веры, каб паказаць вашую надзею і каб пацьвердзіць вашую любоў *(caritas)*.

Пілігрымуючы, вы разам маліліся і разважалі на тэмы, якія вам асабліва дарагія і якія вы лічыце асноўнымі, каб заставацца стойкімі ў веры. І так вы маліліся за сем'і, за дзяцей, за моладзь і разважалі пра сям'ю як асяродак захаваньня і разьвіцьця веры.

Вы маліліся за біскупаў, прасьвітараў і дыяканаў, як і за манахаў і манахіняў, а таксама за новых кандыдатаў на сьвятарства і да пасьвячанага жыцьця, разважалі аб важнасьці і неабходнасьці весьнікаў веры, служыцеляў сакрамантаў і настаўнікаў сьвятога Народу Божага.



• *Полацак, 16.07.2006. Апостальскі Нунцый у Беларусі архібіскуп Марцін Відавіч разам з духавенствам БГКЦ.*

Вы таксама маліліся і пасьціліся за вашыя парафіяльныя супольнасьці і за іх першыя неабходнасьці, разважалі аб царкоўных грамадах і аб месцах абвяшчаньня веры, якімі перш за ўсё зьяўляюцца храмы.

Акрамя таго, вы маліліся за памёрлых, за ахвяраў войнаў і перасьледваньняў, мінулых і цяперашніх, і ўзгадвалі братоў, якія заснулі ў веры.

Бог няхай давядзе да завяршэньня справу, якую пачаў у вас. Хай выслухае вашыя малітвы і просьбы вашага сэрца.

**4** Мы пачулі Апостала Народаў, які кажа: "Калі Бог з намі, хто супраць нас?" *(Рым 8, 31)*. Вы самі даеце сьведчаньне праўдзівасьці гэтых словаў Апостала Паўла, бо калі Бог з вамі, хто можа быць супраць вас? Вы, на самой справе, набылі вопыт, "што ўсё садзейнічае на дабро тым, што любяць Бога ды якія пакліканыя па Яго пастанове" *(Рым 8, 28)*.

Паслухайце нанова словы Апостала і падумайце над імі. Хай будуць яны для вас стымулам і ўзмоцняць адвагу. Гэтыя словы аб Божым плане збаўленьня, разам з гімнам пра Божую любоў да людзей, паказваюць шлях, які вы пакліканыя прайсьці і які зьяўляецца адзінай дарогай для тых, што ёсьць вучнямі Хрыста і што сапраўды любяць Бога; Любяць Яго ўчынкамі і праўдай, а ня словамі ці языком *(пар. 1 Ян 3, 18)*.

**5** Сардэчна вітаю ўсіх прысутных, пачынаючы ад Апостальскага Візітатара Архімандрыта Сяргея Гаека і ад прасьвітараў і дыяканаў, як візантыйскага, інакш грэцкага, абраду так і рымскага, інакш лацінскага, абраду, якія разам складаюць Каталіцкую Царкву ў гэтай дарагой і прыгожай Краіне, называнай Беларусь.

Адначасова, з сардэчнай павагай вітаю прысутных тут Прадстаўнікоў дзяржаўных уладаў.

Вітаю кожнага з прысутных асабіста, рады, што магу ўдзельнічаць у гэтай Боскай Літургіі, што служыцца ў візантыйскім абрадзе. Асабліва цешуся магчымасьцю маліцца з вамі за шчодрасьць Божага блаславеньня для адзінай, сьвятой, каталіцкай (паўсюднай) і апостальскай Царквы, якая ёсьць тут, у Беларусі, ды за мір, за духоўны і матэрыяльны прагрэс гэтай узьлюбленай Краіны, нашай Беларусі, дзеля дабра ўсіх яе жыхароў.

Асаблівае прывітаньне мясцовай парафіяльнай Супольнасьці і мясцовай манаскай Супольнасьці Студытаў, якія нас гасьцінна прымаюць і дзеляцца з намі сваёй верай.

Дарагія браты і сёстры ў Хрысьце, маё прывітаньне хай дойдзе да ўсіх вашых блізкіх, сяброў і знаёмых, а таксама і да тых, што хацелі тут прысутнічаць, але не змаглі па розных прычынах. Яны таксама няхай будуць удзельнікамі нашых малітваў і багацьця Божай ласкі.

**6** Усім вам, сабраным тут, вашым сем'ям, вашым парафіяльным Супольнасьцям, як і ўсёй дарагой Беларусі, перадаю прывітаньне і Блаславеньне Сьвятога Айца Бенядыкта XVI.

Ён, Намесьнік Хрыста і Наступца Сьвятога Пятра, заўсёды ёсьць разам з вамі ў сваёй малітве і ў сваёй любові. Ён дадае вам адвагі ў вашым заданьні сталага ўзрастаньня ў веры, як на асабістым узроўні, так і на ўзроўні вашых супольнасьцяў. Ведайце, што вы заўсёды можаце разьлічваць на Ягоную айцоўскую падтрымку.

Разам з Ім, і ад Яго імя кажу вам: Заставайцеся "стойкімі ў веры" *(1 Кар 16, 13; 1 Пт 5, 9)*, у веры каталіцкай і апостальскай, якой вы далі цудоўнае сьведчаньне *(пар. 1 Цім 6, 12)*, як у мінулыя, вельмі цяжкія часы, так і ў цяперашнія часы, адзначаныя рэлігійнай свабодай, якой жыхары Беларусі могуць цешыцца ўжо больш за пятнаццаць гадоў. Стойкія ў веры не дазваляйце, каб ніхто і нішто ніколі не аддзялілі вас ад любові Бога, якая ў Хрысьце Ісусе *(пар. Рым 8, 35-39)*.

**7** Будзьце мужнымі, узьлюбленыя католікі візантыйскага, інакш грэцкага, абраду ў Беларусі! Ідзіце наперад з мужнасьцю, якая паходзіць ад Бога, і з надзеяй, ускладзенай на Яго. З радасьцю абвяшчайце Евангельле збаўленьня на гэтай дарагой зямлі, што зьяўляецца вашай Айчынай.

Мір усім вам! З найвялікшай руплівасьцю захоўвайце сьвятую спадчыну сьведчаньня Ісуса *(пар. Адк 12, 17)*, якое было вам перададзена і якое вы маеце ў Сулучнасьці ўсёй Царквы – адзінай, сьвятой, каталіцкай (паўсюднай) і апостальскай.

Найдаражэйшыя, глядзіце ў будучыню з надзеяй. Госпад ведае, калі прасьвятліць гарызонты гісторыі і пашырыць іх нават тады, калі мы гэтага менш за ўсё чакаем. Вы ёсьць жывымі сьведкамі гэтага ўжо больш за пятнаццаць гадоў.

**8** Айцу, "ад Якога зыходзіць усякае добрае дарэньне і дар дасканалы" *(Як 1, 17)*, Які ёсьць блаславёны і адзіны Магутны, Валадар валадароў і Госпад пануючых *(пар. 1 Цім 6, 15)*, Які зрабіў яўнымі Свае справядлівыя суды *(пар. Адк 15, 4)*, няхай будзе "ўшанаваньне і валадараньне вечнае" *(1 Цім 6, 16)*.

Адзінароднаму Сыну Божаму, Госпаду Ісусу Хрысту, Якому "належаць час і вечнасьць" *(Рымскі Імшал, Літургія сьвятла Пасхальнае вігіліі)*, няхай будзе, разам з Айцом і Сьвятым Духам, нашая шанавальная слава і поўная ўдзячнасьць цяпер і на вечнасьць.

Сьвятому Духу, "Госпаду-Жыватворцы" *(Сымбаль веры Нікейска-канстанцінопальскі)*, "Які ажыўляе і кіруе Царквой" *(Рымскі Катэхізм 1, 10, 24)*, няхай будзе нашая пабожная пашана і наша шчырае пакланеньне.

Слава Айцу і Сыну і Сьвятому Духу – Богу Трыадзінаму, Які любіць нас і Які паклікаў нас па Сваёй пастанове *(пар. Рым 8, 28)*. Амін.

# У гонар Росіцкіх мучанікаў

***11 і 12 жніўня 2006 году ў Росіцы (Верхнядзьвінскі р-н, на мяжы з Латвіяй) праходзілі штогадовыя сьвяткаваньні ў гонар Росіцкіх мучанікаў – Блаславёных Антона Ляшчэвіча і Юрыя Кашыры, каталіцкіх сьвятароў-марыянаў, спаленых фашыстамі ў 1943 годзе разам з шматлікімі мясцовымі жыхарамі. Ва ўрачыстасьцях удзельнічалі некалькі соцень вернікаў, частка якіх прыйшла ў пешых пілігрымках з Друі і Наваполацку.***



• *Росіца, 12.08.2006. Боская Літургія ў візантыйскім абрадзе.*

Заўважным у гэтым беларускім каталіцкім сьвяце быў таксама ўдзел каталікоў усходняга абраду, якія ўжо ня першы год прыязджаюць у Росіцу, каб ушанаваць памяць беларускіх навамучанікаў. Сёлета на ўрачыстасьцях грэка-каталікоў было больш за два дзясяткі. Групу грэка-каталіцкіх пілігрымаў з Віцебску й Полацку ўзначальваў ераманах Лявонці (Тумоўскі), протапрасьвітар Усходняга дэканату БГКЦ. На сьвята прыбыў і Апостальскі Візітатар БГКЦ Архімандрыт Сяргей Гаек, марыянін, з групай грэка-каталіцкіх семінарыстаў. Таксама прыехалі сьвятары й вернікі БГКЦ з розных куткоў Беларусі: з Менску, Воршы, Барысава, Горадні, Берасьця, Баранавічаў і Івацэвічаў.

Увечары 11 жніўня ў Росіцы адбылася прэзэнтацыя новай кнігі Народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна «Рымскі дыпціх». Да арганізацыі гэтай літаратурна-музычнай імпрэзы падчас Росіцкіх урачыстасьцяў спрычыніліся беларускія грэка-католікі, тым больш што дзядзька Рыгор і бард Алесь Камоцкі, які сьпяваў на прэзэнтацыіі,– вернікі Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, а кнігу з гэтым новым творам Р.Барадуліна, на якую ён натхніўся пасьля пілігрымкі ў Рым і сустрэчы з Папам Янам Паўлам II, выдала грэка-каталіцкая парафія Сьвятапакутніка Язафата ў Полацку.



• *Росіца, 11.08.2006. Рыгор Барадулін і Алесь Камоцкі падачс прэзэнтацыі кнігі «Рымскі дыпціх».*

З малітвы Акафісту да Маці Божай, які сьпявалі грэка-каталікі, а 23-й гадз. распачалося начное чуваньне. Апоўначы была адслужана ўрачыстая лацінская Імша, якую ўзначаліў Віцебскі Ўладыка Ўладзіслаў Блін і Генеральны Супэрыёр Ордэну Марыянаў а. Ян Мікалай Рокаш з Рыму. Разам з імі маліліся ня толькі лацінскія сьвятары, але й пяць сьвятароў візантыйскага абраду з дыяканам ды яшчэ таксама й армяна-каталіцкі сьвятар. (Цікава адзначыць, што армяна-каталіцкі сьвятар а. Петрас (Эрнэст) Есаян, які служыць цяпер у Ераване,– ураджэнец Беларусі, ён выдатна размаўляе на беларускай мове і ў свой час праходзіў сьвятарскую фармацыю ў марыянаў.) Вось жа для ўдзельнікаў урачыстасьцяў у Росіцы была даволі рэдкая для Беларусі магчымасьць патрапіць на набажэнства, дзе разам маліліся каталікі адразу трох розных абрадаў: лацінскага й двух усходніх абрадаў – беларуска-візантыйскага і армянскага. Адразу пасьля Імшы ўсе ўдзельнікі ўрачыстасьцяў рушылі працэсіяй з сьвечкамі й сьпевамі да памятнага крыжа на месца мучаніцтва.



• *Росіца, 12.08.2006. Працэсія з сьвечкамі на месца мучаніцтва.*

Раніцай 12 жніўня, а 8-й гадз., Архімандрыт Сяргей з сьвятарамі ўсходняга абраду адслужыў беларуска-візантыйскую Літургію, у якой бралі ўдзел шматлікія пілігрымы і мясцовыя вернікі. А апоўдні нашыя сьвятары саслужылі падчас лацінскай сьвятой Імшы, якую ўзначальваў Уладыка Антон Дзямянка, Апостальскі Адміністратар Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі.

Гэтыя ўрачыстасьці ў гонар Росіцкіх мучанікаў сталі выдатнай нагодай, якая яскрава выявіла праўдзівую сутнасьць Каталіцкай Царквы – паўсюднасьць і еднасьць у разнастайнасьці абрадаў і народаў. Прысутнасьць сьвятароў і вернікаў усходняга абраду ў Росіцы, у мясьцінах, дзе працавалі на місіях друйскія марыяне, якія так марылі служыць для адраджэньня Уніі ў Беларусі, падаецца зусім невыпадковай.

Блаславёны мучанік Юры Кашыра быў ахрышчаны паводле візантыйскай традыцыі, бо паходзіў з праваслаўнай сям'і, дзе продкі былі ўніятамі. Маці яго, як і многія былыя ўніяты, як толькі гэта стала магчыма пасьля царскага ўказу пра верацярпімасьць, вярнулася ў Каталіцкую Царкву. Адно што мусіла прыняць лацінскі абрад, бо тая царская міласьць адраджэньня Уніі, г. зн. Каталіцкай Царквы візантыйскага абраду, не дапускала... Сам жа Юры Кашыра ўжо ў сьвядомым узросьце (у 18 гадоў) стаў каталіком.

Блаславёныя Росіцкія сьвятары ў час выпрабаваньня, перад абліччам нялюдзкасьці й фашыстоўскай нянавісьці, далі сьвету сьведчаньне пастырскай адданасьці, мужнасьці, годнасьці й любові да бліжніх, дабраахвотна разьдзяліўшы цярпеньні простых людзей (вернікаў як заходняй так і ўсходняй традыцыі, як палякаў, так і беларусаў), прыняўшы разам з імі мучаніцкую сьмерць. Пра гэта гаварыў на заканчэньне ўрачыстасьцяў Генеральны Супэрыёр марыянаў а. Ян Мікалай Рокаш. Ён таксама выказаў удзячнасьць Богу за ўсё дабро, якое беларускія марыяне ўчынілі праз дзесяцігоддзі працы *"Pro Christo et Ecclesia"* ("Для Хрыста і Царквы") як у Беларусі, так і далёка ад Бацькаўшчыны. Зьверхнік марыянаў асабліва ўзгадаў беларускага грэка-каталіцкага біскупа Чэслава Сіповіча – Апостальскага Візітатара для беларусаў замежжа — у сувязі з 25-мі ўгодкамі яго сьмерці. Уладыка Чэслаў паходзіў з гэтых прыдруйскіх мясьцінаў, а ў 1963-1969 гг. быў Генеральным Супэрыёрам Ордэну Марыянаў.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

# Сустрэчы ў Альпах Апуанскіх

*"[У Царкве] пульсуе дынамізм любові, узбуджанай Духам Хрыста. Гэтая любоў нясе людзям ня толькі матэрыяльную дапамогу, але таксама адпачынак і клопат пра душу, гэта значыць, дапамогу часта больш неабходную, чым матэрыяльная падтрымка".*

З энцыклікі Сьвятога Айца Бенядыкта XVI "Deus caritas est".

Улетку Італія становіцца "беларускай". У сонечную паўднёвую краіну на адпачынак прыязджаюць тысячы беларускіх дзяцей, якіх з радасьцю прымаюць гасьцінныя італійскія сем'і.

Групу дзяцей-сірот з Чарнобыльскай зоны чакалі і ў невялічкім мястэчку Казала ін Луніджыяна, дзе мы гасьцілі ў сп. Фэрнанда Мосьці. Калі Фэрнанда даведаўся, што мы маем педагагічную адукацыю (я — гістарычную, жонка — філалагічную), вельмі ўзрадаваўся і прапанаваў арганізаваць для беларускіх дзяцей школу: вучыць іх гісторыі, мове, матэматыцы. Некаторыя з іх, паводле словаў Фэрнанда, у 10 гадоў нават пісаць ня ўмеюць. Гэтую ідэю падтрымалі некаторыя іншыя італійскія сем'і, якія рыхтаваліся прыняць маленькіх беларусаў. Але як вучыць дзяцей, ня маючы падручнікаў? Гісторыі яшчэ сяк-так можна, бо ўсё мястэчка з рэшткамі сярэднявечных фартыфікацыяў – суцэльны дапаможнік па гісторыі, але мове, матэматыцы?.. І ці зможам мы за кароткі тэрмін знаёмства дапамагчы малым, якіх ня здолелі навучыць настаўнікі ў школе? Карацей, вырашылі спачатку пазнаёміцца з дзецьмі, а пасьля вырашыць, што рабіць.

Праз некалькі дзён мы сустракалі гомельскі самалёт, на якім прыляцела больш за 100 беларускіх дзяцей. Аднак у мястэчка Казала й ваколіцы з іх патрапіла толькі дванаццаць чалавек разам з выхавацелькай Наташай, дзяўчынай гадоў дваццаці пяці. Яна нам шмат што патлумачыла. Дзеці ў нашай групе былі з двух інтэрнатаў: рэчыцкага – для дзяцей-сірот і бабіцкага – для дзяцей з затрымкай у разьвіцьці. Пэўна, менавіта пра іх і казаў сп. Фэрнанда, бо дзеці з Бабічаў займаюцца па вельмі спрошчанай праграме, шмат якія дысцыпліны не вывучаюць увогуле.

Дзеці прыехалі на адпачынак, таму мы вырашылі займацца з імі два разы на тыдзень па дзьве гадзіны. Ужо на першым спатканьні стала зразумела, што ні мове, ні матэматыцы мы вучыць ня будзем. Бо цяжка адначасова вучыць агульнаадукацыйным прадметам дзесяцігадовага хлопчыка са сьпецыялізаванай школы-інтэрнату і пятнаццацігадовага падлетка са звычайнай школы. Ды й ад назвы "школа" давялося адмовіцца – вельмі ўжо негатыўныя эмоцыі выклікала гэта ў дзяцей. Дзесяцігадовы Вова, якога прывезьлі "ў школу", адмовіўся нават выходзіць з машыны, не дапамаглі ніякія абяцаньні, што ў нашай школе будзе цікава, весела і ніхто нікога не пакрыўдзіць. Прыехаў хлопчык толькі на наступны раз, пасьля таго, як мы наведалі яго дома, крыху пасябравалі і запрасілі "ў госьці, сустрэцца й пагуляць з іншымі дзецьмі".

Мы вырашылі выкарыстаць нашыя сустрэчы, каб расказаць дзецям пра Бога, але яны трымаліся насьцярожана, няўпэўнена, прыгляданіся да нас, неахвотна гаварылі й не праяўлялі ніякіх эмоцыяў. Было зразумела, што, калі мы не пасябруем, нашыя сустрэчы ня будуць мець ніякага сэнсу. Ня проста казаць пра Божую міласэрнасьць дзецям, якія ў сваім жыцьці больш страцілі, чым набылі, ня маюць пяшчотных бацькоў і нават дома. Мы імкнуліся быць добразычлівымі, чулымі, не зьвяртаць увагі на хібы, падтрымліваць, хваліць нашых выхаванцаў, і як мага часьцей пераносіць заняткі з цёмнага і цеснага пакойчыка на вольнае паветра. Высьветлілася, што дзеці, якія ўжо некалькі гадоў запар адпачываюць у Казале, нічога ня ведаюць пра мястэчка й не зьвяртаюць увагі на цудоўныя старажытныя вулачкі й сярэднявечныя будынкі, бо ім больш падабалася сядзець перад тэлевізарам альбо за відэагульнямі. Таму сапраўднай прыгодай для дзяцей сталася прапанаваная ім гульня ў захоп гораду – экскурсія па старой частцы мястэчка, якая пачалася перад адной гарадзкой брамаю і скончылася перад другою, на супрацьлеглым канцы Казалы.

"Зямлёю абяцанаю" стаў для нас мясцовы археалагічны парк (лясная паляна з макетамі дамоў першабытных людзей і старадаўніх стодаў): тут мы разважалі пра гісторыю, і менавіта тут дзеці пачалі задаваць пытаньні пра стварэньне сьвету й першых людзей, пра сьмерць, жыцьцё і сваё месца ў ім. Гэта былі пытаньні, адказы на якія яны не маглі атрымаць дагэтуль, бо гэтаму ня вучаць у школе. І цяпер мы ведалі, што патрэбна нашым выхаванцам, чым мы можам дапамагчы ім і пра што казаць. На жаль, сем'і, якія прымалі дзяцей, не былі асабліва рэлігійнымі, амаль што нікога з іх мы ня бачылі на набажэнствах, таму вырашылі самі адвесьці дзяцей да царквы. Высьветлілася, што некаторыя з іх ніколі ў жыцьці не былі ў храме і толькі аднойчы бачылі сьвятара, які пры нагодзе завітаў у інтэрнат, але затое пытаньняў была незьлічоная колькасьць...

Такім чынам, было відавочна, што ня толькі добрага адпачынку, смачнай ежы і падарункаў патрабуюць гэтыя дзеці. Пяшчоты і любові італійцаў, якія ставяцца да беларускіх сірот як да ўласных дзяцей, таксама не заўсёды дастаткова. Часам мы бачылі, як падлеткам, якім у іх інтэрнаце ў Беларусі жывецца цяжка, добрасардэчныя італійскія бацькі імкнуліся даць усё і выконвалі кожнае іхняе патрабаваньне. Можна сказаць, жыцьцё гэтых дзяцей дзеліцца на дзьве часткі: беларускую, дзе ўсё — нельга і італійскую, дзе ўсё можна...

Але, разам з тым, бачылі мы сіньёраў і сіньёр, якія ня толькі падкормлівалі нашых дзяцей слодычамі, але й размаўлялі з імі – пра жыцьцё, пра Бога, пра страчаных бацькоў... І бачылі, як да лепшага зьмяняліся гэтыя дзеці. Пра гэта я казаў італійцам у разьвітальны вечар. Магчыма, дапамога беларускім дзецям-сіротам стане таксама шляхам да Бога й для саміх італійцаў.

На жаль, ня ўсе дзеці наведвалі нашу школу, бо не заўсёды планы сем'яў, якія хацелі звазіць дзяцей на мора ці ў Дыснэйлэнд, супадалі з нашымі. У чым жа тады было нашае "сацыяльнае служэньне"? На маю думку, у тым, пра што казаў Папа: Бог даў нам магчымасьць задбаць пра гэтае другое вымярэньне – духовае. І сьведчыць Хрыста маленькім беларусам і іх італійскім бацькам у Апуанскіх Альпах сталася сацыяльным служэньнем нашае Царквы...

**Айцец Андрэй і Кацярына КРОТ**

# Нататка пра Райскае

***На працягу першых дзесяці дзён жніўня ў кантэксьце практычнай рэалізацыі сацыяльнай дактрыны Царквы трое семінарыстаў БГКЦ Алесь Хахлоў, Віталь Быстроў і Аляксей Філіпенка праходзілі сацыяльна-педагагічную практыку на крайніх паўднёвых прасторах Польшчы сярод запаведных лясістых гор вакол Салінскага возера, у Райскім — мястэчку з сымбалічнай назвай на схіле гор ля ракі Сан. Тут шуміць жыцьцём рэкалекцыйны цэнтр дабрачыннай арганізацыі "Caritas", дзе фундацыя "Метаноя" на чале з сп. Рычардам Маджыеўскім у супрацоўніцтве з карытасаўцамі ладзіла летнік для дзяцей і моладзі "Вакацыі з Богам".***

Кожны дзень летніка пачынаўся з Еўхарыстыі і працягваўся рэкалекцыйнай праграмай для моладзі, у якую актыўна ўключыўся Алесь Хахлоў. Таксама для дзяцей былі забаўляльныя вандроўкі ў горных далінах, катаньне на конях, экскурсіі па ваколіцах. Падчас іх педагогам спн. Дануце і спн. Асі дапамагалі апекавацца дзецьмі беларускія грэка-каталіцкія семінарысты Віталь Быстроў і Аляксей Філіпенка.

Бог, даючы нам клопат пра Сваіх дзяцей і даручаючы вадзіць іх у бясьпецы, даў магчымасьць атрымаць выдатны досьвед у пастырстве: нікога не згубіць, не параніць чыюсьці душу, усіх ведаць па імю (а некаторых яшчэ й па другім), прыглядзецца і палюбіць кожнага. Часам трэба было кагосьці паднесьці на плячах, камусьці нарваць кветак, а самых нямоглых, што ледзьве-ледзьве пляліся ззаду, каб умацаваць іх дух, надаць ім веры ды ўпэўненасьці, узяўшы за руку, трэба было вывесьці на самы перад. І тады апошнія станавіліся першымі... Тых, хто найбольш патрабуе ўвагі й любові, трэба падняць да неба, ахінуць у хвалі пяшчотнай ласкі Госпада, паказаць ім Ісуса, каб спазналі Ягоную любоў і праз усё жыцьцё ведалі, куды й да Каго вяртацца. Бо да неба – вяртаюцца...

Шкада, што дзеля страху мноства зьмеяў не было дазволу прайсьціся вузкай ляснай сьцяжынкай, каб узьняцца да самых вышыняў гор.

**семінарыст Віталь БЫСТРОЎ**



# 80-годзе айца Аляксандра НАДСАНА

**Айцец Аляксандар НАДСАН – Апостальскі Візітатар для беларусаў замежжа, кіраўнік Беларускай бібліятэкі-музея імя Францішка Скарыны ў Лондане, аўтарытэтны беларускі навукоўца-гісторык і перакладчык богаслужбовых тэкстаў Усходняй Царквы на беларускую мову.**

*Айцец Аляксандар прыйшоў на сьвет 8 жніўня 1926 году ў заходнебеларускім мястэчку Гародзея – сёньня гэта Нясьвіжскі раён Менскай вобласьці. Вучыўся ў Баранавічах, Гародзеі, а ў весну 1944 году скончыў беларускую Нясьвіжскую настаўніцкую семінарыю. Ужо праз некалькі тыдняў разам з курсантамі Менскай афіцэрскай школы БКА вымушаны быў пакінуць Радзіму і з восені 1944 году ваяваў у складзе 2-га Польскага корпусу брытанскіх узброеных сіл.*

*У 1946 годзе разам з іншымі жаўнерамі корпусу быў эвакуяваны з Італіі ў Брытанію, дзе спрычыніўся да стварэньня Згуртаваньня беларусаў у Вялікабрытаніі, быў старшынём гэтай арганізацыі і дагэтуль зьяўляецца адным з найбольш аўтарытэтных і дзейных яе сябраў. У 1953 годзе, пасьля таго як скончыў матэматычны факультэт Лонданскага ўніверсітэту, выехаў у Рым, дзе скончыў Грэцкую калегію.*

*23 лістапада 1958 году ў Рыме Аляксандар Надсан прыняў сьвятарскія сьвячэньні ў царкве сьв. Апанаса Вялікага ў Грэцкай калегіі, а ў ліпені 1959 году вярнуўся ў Лондан. Менавіта тут ён адслужыў сваю першую Боскую Літургію для беларусаў, і гэтае ягонае служэньне свайму народу працягваецца ўжо амаль паўстагоддзя.*

## ЮБІЛЕЙ А. АЛЯКСАНДРА НАДСАНА: МАЛІТОЎНЫ ЎСПАМІН У МЕНСКУ

***8 жніўня 2006 г. адзначалася 80-годдзе мітрафорнага протаярэя Аляксандра Надсана, Апостальскага Візітатара для беларусаў замежжа, Рэктара Беларускай Каталіцкай Місіі ў Лондане.***

З гэтае нагоды ў найбліжэйшую нядзелю, 13 жніўня 2006 году, Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыт Сяргей (Гаек) служыў Боскія Літургіі ў інтэнцыі Дастойнага Юбіляра ў дзьвюх менскіх грэка-каталіцкіх парафіях: Праведнага Язэпа і Маці Божай Нястомнай Дапамогі. Асабліва радасна было сустрэць на Літургіі людзей, якіх у 1990-ыя гады хрысьціў сам а. Аляксандар Надсан.

Архімандрыт Сяргей накіраваў Дастойнаму Юбіляру ўласнаручны ліст, у якім сярод іншага напісана: *«Пачэсны і Вялебны Айцец Протаярэй! У малітве дзякуем Госпаду за Вашую нястомную і плённую працу для духовага дабра вернікаў БГКЦ і просім у Яго багатых ласкаў для Вас «на многія леты».*

## ПАДАРУНКІ ЮБІЛЯРУ

Набліжалася 80-годдзе айца Аляксандра, і мы ў Лондане пачалі задумвацца над годным ушанаваньнем гэтага своеасаблівага юбілею. Постаць а. Аляксандра ня мае сабе роўных у беларускім сьвеце. Ён прысьвяціў усё сваё жыцьцё, як ні пафасна гэта гучыць, служэньню Богу й беларускаму народу. Дзякуючы яму, упершыню ў гісторыі візантыйская літургічная спадчына загучала па-беларуску. Гэтую велізарную працу ён зьдзейсьніў у адзіночку, дзесяцігоддзямі працуючы "ў стол", не знаходзячы падтрымкі нават у сваіх братоў-сьвятароў. Выходзячы з неабходнасьці літургічнага ўвасабленьня беларускае рэлігійнае самабытнасьці, ён склаў шэраг поўных службаў найважнейшым беларускім сьвятым, а таксама малебнаў, якія ня мелі адпаведнікаў у славянскай традыцыі. Ён фактычна заснаваў беларускую літургічную традыцыю ўсходняга абраду. Калі сабраць разам усе ягоныя літургічныя тэксты, то атрымаецца фаліянт з добрых тысячу старонак. Па сваёй маштабнасьці, навізьне ды грамадзка-культурнай значнасьці гэтая тытанічная праца можа зраўняцца хіба толькі з подзьвігам Скарыны.

Такой працы ўжо хапіла б на некалькі жыцьцяў. Але айцовы даробак не абмяжоўваецца літургічнай творчасьцю. Выдатны знаўца беларускай кнігі, гісторыі, культуры, гісторыі Царквы, ён распрацоўваў новыя тэмы ў беларускай гуманітарыі. Яму належаць шматлікія навуковыя артыкулы на розных мовах (каля 90 найменьняў) і пяць манаграфій па-беларуску. Выдадзены ў 2002 годзе малітаўнік "Госпаду памолімся" ўвайшоў, паводле апытаньня газеты "Наша Ніва", у дзясятку лепшых беларускіх кніг года (6-е месца) – зьява, нечуваная ў сьвеце, – а кніга "Біскуп Чэслаў Сіповіч: Сьвятар і беларус", якая выйшла ў Менску ў самым канцы 2004 г., была прызнаная лепшай кнігаю года.

Беларуская каталіцкая місія ў Лондане, рэктарам якой а. Аляксандар Надсан працуе вось ужо больш як дваццаць гадоў, сталася найважнейшым цэнтрам беларускае духоўнасьці й культуры ў Заходнім сьвеце, дзе душпастырская праца неаддзельная ад умацаваньня і разьвіцьця беларускасьці. Гэтае ж тычыцца й Скарынаўскай бібліятэкі, якая, дзякуючы найперш руплівасьці самога айца, сталася найлепшым зборам беларускага друкаванага слова па-за межамі Беларусі і ў якой уважаюць за гонар працаваць дасьледчыкі з усяго шырокага сьвету. Паводле айца Аляксандра, сьвятарства – гэта найперш быць са сваім народам, асабліва ў часы выпрабаваньняў, і спрыяць яго духоўнаму разьвіцьцю ва ўсіх магчымых формах. Ён не спадзяецца, што людзі пачнуць гарнуцца да яго, а сам ідзе да іх, несучы ім усю сваю веру й веду ў сьвятле бясконцае спагады й разуменьня. Гэта ён распачаў рух дапамогі ахвярам Чарнобыльскае трагедыі ў Беларусі, спачатку інфармуючы, наколькі гэта было ў ягоных сілах, людзей на Захадзе, а потым, пры першай магчымасьці, калі савецкія межы сталіся больш "праходнымі", адведваючы найбольш пацярпелыя раёны ды дапамагаючы медыкаментамі і абсталяваньнем тамтэйшым лякарням. І ўсё гэта – пры мінімальных асабістых патрабаваньнях і практычна без аніякае дапамогі звонку. Затое крытыкаў хапала заўсёды.

Нам уяўляліся тры адэкватныя падарункі, якія ўдзячныя, так бы мовіць, суайчыньнікі маглі б яму прэзэнтаваць: ганаровы доктарат у прыстойным універсітэце – як выбітнаму навукоўцу, шыкоўнае "напрыстольнае" Евангельле – як сьвятару ды зборнік навуковых артыкулаў, ахвяраваных яму самымі яркімі дасьледчыкамі ў ягонай галіне, – тое, што ў Заходняй традыцыі называецца нямецкім тэрмінам *Festschrift*, – як беларускаму дзеячу.

Першы з гэтых падарункаў-ушанаваньняў мы пры ўсім жаданьні не маглі яму забясьпечыць. А два астатнія можна было прынамсі паспрабаваць зрабіць. Адзінае, што гэтыя добрыя намеры выкрышталізаваліся за няпоўныя тры месяцы да юбілею.

## "ЛОНДАНСКАЕ ЕВАНГЕЛЬЛЕ"

Вырашыўшы рабіць Евангельле для літургічнага ўжытку, мы сутыкнуліся з праблемай узору, на які можна было б абаперціся. Сярод многіх існуючых варыянтаў мы спыніліся на тым, які падаўся найбольш зручным і функцыянальным – на гэтак званым "апракосе" – зборніку выбраных чытаньняў на пэўныя дні літургічнага году. Задачу выдаўцоў значна ўскладняла адсутнасьць вартасных папяровых апракосаў. Вядомае "Напрастольнае сьвятое Евангельле" на ўвесь літургічны год выдаў у 1988 г. у Таронта праваслаўны архіяпіскап Мікалай Мацукевіч. Рэпрынтнае выданьне гэтай кнігі, якое цяпер пашыранае ў грэка-каталіцкіх парафіях на Беларусі, на жаль, не магло паслужыць нам узорам да працы з-за надзвычай вялікай колькасьці хібаў і памылак як тэкстуальнага, так і выдавецкага характару і дзеля гэтага падалося цалкам непрыдатным для выкарыстаньня.

Для нашага Евангельля мы вырашылі абмежавацца чытаньнямі на нядзелі й асноўныя сьвяты, бо кніга штодзённых чытаньняў была б занадта вялікаю й нязручнаю ва ўжытку. У кнігу, якую ў выніку Сяргей *(дыякан С.Стасевіч – Рэд.)* уклаў, даўшы ёй назву "Эвангельлі нядзельныя і сьвяточныя", увайшлі евангельскія чытаньні на ўсе нядзелі літургічнага году, на ўсе дні Тыдня Мукаў Хрыстовых і Сьветлага тыдня, на сьвяты Гасподнія, Багародзіцы й найважнейшых сьвятых, а таксама ўваскросныя Евангельлі, што чытаюцца на ютрані. Такім чынам, падобнае выданьне якраз задаволіла бы сёньняшнюю патрэбу ў добрым, "чытабельным", Евангельлі падчас багаслужбаў у беларускіх парафіях, дзе сьвятая Літургія адпраўляецца пераважна ў нядзелі і сьвяты.

Наступнай праблемаю сталася адсутнасьць поўнага сучаснага навуковага перакладу Евангельляў на беларускую мову. Рабіць свае пераклады не было часу... Адзінае, што заставалася, – адаптаваць нейкія існуючыя тэксты. Бясспрэчна, найлепшаю была версія самога айца Аляксандра, які перакладаў евангельскія тэксты з грэцкае мовы паралельна з літургічнымі тэкстамі – як чытаньні на пэўныя сьвяты – на працягу 1960–1990-х гг. Але ягоныя пераклады не пакрывалі ўсіх нядзеляў і сьвят, а знайсьці ім адэкватныя адпаведнікі было ня проста. Практычна ўсе сучасныя пераклады Евангельляў на беларускую мову зробленыя не з арыгіналу, што вельмі адчуваецца чалавекам, знаёмым з грэцкімі тэкстамі. Апроч таго, усе яны маюць свае праблемы з адаптацыяй па-беларуску пэўных багаслоўскіх тэрмінаў і для літургічнага ўжытку падыходзяць не найлепшым чынам. Таму рэшта тэкстаў была ўзятая з вядомай кнігі "Новы Запавет і Псальмы", выдадзенай у Гэльсінгфорсе ў 1931 г. Пераклады для гэтай кнігі рабілі ў 1920-х гг. Лукаш Дзекуць-Малей, які працаваў з грэцкімі тэкстамі, максімальна блізка захоўваючы грэцкую фразеалогію і сінтаксіс, і Антон Луцкевіч, які адаптоўваў гэта на тагачасную беларускую мову. На працягу 1960-х гг. у Лондане з гэтым перакладам працаваў а. Леў Гарошка. Ён зрабіў яго літургічную адаптацыю для чытаньня падчас набажэнства, разьбіўшы тэкст на адпаведныя кавалкі ды паўводзіўшы ў яго ўступныя моўныя звароты, неабходныя для ўспрыняцьця тэкставага ўрыўку як паўнавартаснага тэксту – кшталту "Таго часу", "У тыя дні", "Сказаў Гоcпад гэткую прыповесьць" і да т. п. Плёнам гэтай працы сталася ратапрынтнае выданьне ў 1967 г. у Лондане кнігі "Пракімэны 8-і гласаў, Апосталы і Эвангельлі ў беларускім перакладзе для літургічнага ўжытку ў нядзелі і сьвяты".



• *Лондан, 08.08.2006. Юбіляр а. Аляксандар Надсан трымае падарунак – напрастольнае Евангельле.*

Такім чынам, у нас было два наборы перакладзеных тэкстаў, якія вельмі адрозьніваліся паміж сабою як беларускай моваю, так і сваімі дачыненьнямі з грэцкімі арыгіналамі. Апрача таго, само пытаньне гэтых грэцкіх арыгіналаў заставалася цьмяным, бо аніводны з перакладчыкаў не паруліўся пра крытычны падыход да тэксту – гэта значыць, грэцкія крыніцы нідзе не былі пазначаныя; а між тым паміж рознымі тэкстуальнымі крыніцамі ёсьць багата разыходжаньняў, часам нязначных, а часам даволі заўважных. Адпаведна, трэба было ня толькі згарманізаваць два пераклады, але й зьверыць іх з вартым даверу выданьнем грэцкіх Евангельляў. Найлепшым крытычным выданьнем Новага Запавету ў сучаснай біблістыцы ёсьць, безумоўна, апошняе з выданьняў у гэтак званай тэкстуальнай традыцыі Нэстле-Аланд (*Novum Testamentum Graece*, Stuttgart, 1994). Яно й сталася тэкставай базаю для працы над нашым "апракосам".

Тэкст тэкстам, а кніга кнігай. Евангельле, зразумела, мусіла быць вельмі прыгожым. Але як зрабіць шыкоўную кнігу нам двом, якія ўмеем толькі працаваць з тэкстамі? І вось тут адбыўся першы прарыў. Ідэяй такога падарунка айцу натхнілася выдатная мастачка Алена Ткачова. (Многія чытачы "Царквы" могуць памятаць ейныя ілюстрацыі ў часопісе "Унія", а таксама афармленьне малітаўніка "Госпаду памолімся"). Яна прапанавала зрабіць вышытую бісерам аксамітную вокладку. Маючы ў праекце тэкст ды вокладку, трэба было кнігу яшчэ неяк змакетаваць і пераплесьці. Дзякуй Богу, дзевяць беларусаў – вернікаў і прыяцеляў Беларускай каталіцкай місіі ў Ангельшчыне – ахвотна згадзіліся дапамагчы матэрыяльна і такім чынам далучыцца да падарунка юбіляру.

Алена абрала для вокладкі – ці, хутчэй, абкладу, – традыцыйны беларускі стыль, пабудаваны на прынцыпе каляровага кантрасту: на бруднатным аксамітным тле – багаты арнамент у сіне-чырвона-залатой гаме, вышыты з бісеру й стразы. Цэнтрам кампазіцыі верхняе вокладкі стаўся абраз Хрыста Чалавекалюбцы з разгорнутым Евангельлем, ніжняе – шасьціканцовы крыж; па кутох абедзьвюх вокладак разьмясьціліся выявы-сымбалі чатырох евангелістаў. Прататыпам для іконы Хрыста паслужыў абраз Хрыста Збаўцы з іканастасу лонданскае царквы сьвятых апосталаў Пятра і Паўла. Аблічча Хрыста, рукі, Кніга й "жывёлы" евангелістаў выкананыя ў алейным жывапісе. Алене дапамагала ейная сястра Марыя, якая вышыла ніжнюю вокладку. Гэтую надзвычай складаную й выкшталцоную працу мастачкі зрабілі за рэкордна кароткі тэрмін – паўтара месяцы.

Макет Евангельля рабіўся ў выдавецтве "Наша будучыня". Так як часу было катастрафічна мала, людзі ў выдавецтве былі загружаныя "пад завязку", Ірына сама мусіла засвоіць навуку макетаваньня ў сучасных кампутарных праграмах. Для кнігі была абраная танаваная папера высокай шчыльнасьці, якая нагадвае старажытныя пергаментныя манускрыпты. У афармленьні тытула і чатырох шмуцтытулаў ужытыя выявы дрэварытаў з Пражскіх выданьняў Францішка Скарыны 1517–1519 гг. Тое самае тычыцца й ініцыялаў, што ўпрыгожваюць пачатак кожнага чытаньня. Праз усю кнігу тэкст абрамлёны простым і густоўным залацістым арнаментам, складзеным з наборных элементаў Віленскай друкарні Яна Карчана 1580–1611 гг.

Кніга пачынаецца авантытулам з прысьвячэньнем: *"Гэтая кніга выдадзеная ў гонар айца Аляксандра Надсана на ягонае 80-годзьдзе дзеля духоўнага пажытку верных на славу Бога ў Тройцы Адзінага. Амін."* Над тэкстам Алена Ткачова напісала тэмперай з сусальным золатам мініятуру трох каралёў з дарамі. Перад кожным разьдзелам – мініятура аднаго з евангелістаў, у іхнім "літургічным" парадку: Ян–Мацьвей–Лука–Марк. Апошняя бачынка таксама мае сваю тэмперна-залатую віньетку пад сьпісам імёнаў усіх, што *"зь любоўю й падзякаю ахвяруюць"* гэтую кнігу айцу Аляксандру. Так што атрымалася сапраўдная "ілюмінаваная" кніга ў традыцыі еўрапейскага сярэднявечча. Менавіта гэты тэрмін найлепш адпавядае Аленінай працы, і ў выходных дадзеных так і пазначана: "Праілюмінавала Алена Ткачова". Перад кожнай з шасьці ілюмінацыяў уклеілі паўпразрыстую матавую кальку, якая ня толькі мае аберагаць мініятуры, але й дадае ім шарму ды нейкай таямніцы.

Працяг на с.8 ⇨

# 80-годдзе айца Аляксандра НАДСАНА

⇨ Пачатак на с.6-7



Лондан, 08.08.206. Айцец Аляксандар Надсан з беларускай грамадой, якая сабралася, каб павіншаваць юбіляра.

Неацэнную дапамогу ва ўсіх выдавецкіх справах аказаў вядомы беларускі выдавец Зьміцер Санько, які, поруч з Аленай і Марыяй Ткачовымі, стаўся менскім данатарам Евангельля. Пераплёў кнігу выдатны майстра Леанід Бетанаў. Мастак Гэнік Лойка ўпісаў пяром нумары бачынак – дзеля захаваньня рукапіснага духу кнігі. Ён жа ўпрыгожыў адну з бачынак параю пераплеценых цмокаў. Апошнюю кропку паставіла Марыя Ткачова, прышыўшы чатыры багата затканыя рознакаляровыя закладкі. Цалкам Евангельле было гатовае ўвечары сьвята Перамяненьня, 6-га жніўня, а 7-га Ірына павезла яго ў Лондан, каб ужо на наступны дзень уручыць яго юбіляру. Так як Лондан стаўся месцам пастаяннага захоўваньня "Эвангельляў нядзельных і сьвяточных", то й сама гэтая кніга як унікальны твор мастацтва атрымала свой уласны назоў: *"Лонданскае Евангельле"*.

## "СОНЦА ТВАЁ НЕ ЗАКОЦІЦЦА..."

Паралельна з Евангельлем ішла праца па падрыхтоўцы *Festschrift'у*, які акрэсьліўся як міжнародны зборнік артыкулаў па беларусістыцы й багаслоўі. Звычайна ў юбілейныя зборнікі ахвяруюць свае новыя або непублікаваныя раней працы дасьледчыкі ў навуковай галіне юбіляра. Але так як айцец Аляксандар працаваў у вельмі шмат якіх галінах беларускае гуманітарнае навукі, а таксама ў некалькіх багаслоўскіх дысцыплінах, то й "галінамі" ягонымі можна назваць практычна ўсю беларусістыку ды багаслоўе. Акрамя таго, ён – адзін з найбольш вядомых навукоўцаў ды папулярызатараў беларускасьці ў замежжы. І ў зборніку мусілі знайсьці адбітак усе грані айцовае навуковае дзейнасьці. Таму было вырашана запрашаць да ўдзелу ў праекце як беларускіх, так і замежных вучоных, але дзеля спрашчэньня працы над зборнікам ды карыстаньня ім абмежавацца дзьвюма мовамі – беларускай і ангельскай.

Зразумела, што пасьпець да юбілею было немагчыма, і трэба было сабраць за гэты кароткі час аўтараў, атрымаўшы ад іх папярэднюю назву артыкула й яго выцінку ці кароткі зьмест. Такім чынам на сам юбілей можна было б падараваць добры намер, сфармуляваны як зьмест кнігі, а сам зборнік выдаць у гэтым годзе ды зрабіць яго прэзентацыі ў Менску і ў Лондане. Гэткі план меў свой выразны станоўчы бок, бо даваў магчымасьць расьцягнуць сьвяткаваньне айцовага юбілею, зрабіўшы яго сапраўднай грамадзкай ды культурнай падзеяю, а таксама дазволіў бы шырэйшаму колу людзей далучыцца да сьвяткаваньня.

Для назвы кнігі абралі словы з *Ісаі 60:20* – "Сонца тваё не закоціцца, і месяц твой не схаваецца". Апроч шчасьлівага абяцаньня, ці добрай весткі, што яны нясуць у сабе, апроч іх паэтычнай прыгажосьці ды магутнай духоўнай моцы, гэтыя словы надзвычай ладна кладуцца ў беларускі культурны кантэкст, перагукваючыся са знакамітымі Скарынавымі сонцам і месяцам, што асьвятлілі шлях беларускага пісьмовага слова. А таксама, прамоўленыя ў форме вельмі асабістага звароту на "ты", яны гавораць пра сьвятло асобы – пра трывалае й яркае сьвятло, што зьзяе іншым людзям. На нашую думку, гэта ўсё цудоўна адпавядала нагодзе.

Працяг на с.20 ⇨

# Памёр першы Апостальскі Нунцый у Беларусі

***3 жніўня 2006 году ў Ватыкане, ва ўзросьце 76 гадоў, памёр Архібіскуп Габрыэль Мантальва (Gabriel Montalvo) – першы Апостальскі Нунцый у Беларусі.***

Калумбіец паводле паходжаньня, мансіньёр Мантальва доўгі час працаваў у Дзяржаўным Сакратарыяце Апостальскай Сталіцы, дзе займаўся справамі Царквы ва Ўсходняй Еўропе, у тым ліку і ў Беларусі. У свой час ён часта карыстаўся кансультацыяй біскупа Чэслава Сіповіча, Апостальскага Візітатара для беларусаў замежжа. *(Ад Рэдакцыі:* Менавіта тады, у другой палове 1960-ых, разглядалася пытаньне прызначэньня ў Савецкую Беларусь Апостальскага Адміністратара для каталікоў, кандыдатам на якога быў беларускі ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі. Больш падрабязна пра гэта можна прачытаць у кнізе А.Надсана "Біскуп Чэслаў Сіповіч: сьвятар і беларус", якая выйшла ў Менску, у 2004 г., сс. 183-187, 221-224.)

У 1974 годзе манс. Г.Мантальва атрымаў біскупскія сьвячаньні з рук Папы Паўла VI. У перыяд 1974-1980 гг. ён служыў Апостальскім Нунцыем у Нікарагуа і Гандурасе. У 1986-ым ён быў *Pro*-Нунцыем у Паўночнай Афрыцы: Алжыры, Тунісе і Лівіі, а ў 1986-1996 гг. – у Югаславіі. У 1993 годзе архібіскуп Г.Мантальва быў прызначаны Папам Янам Паўлам ІІ першым Апостальскім Нунцыем у Беларусі і нёс гэтае служэньне да 1996 году. У тым самым годзе ён увёў на пасаду Апостальскага Візітатара для грэка-католікаў Беларусі ерамянаха Сяргея Гаека. У перыяд 1993-1998 гг. ён адначасова кіраваў Папскай Дыпламатычнай Акадэміяй у Рыме. У 1998 годзе быў прызначаны Апостальскім Нунцыем у ЗША і нёс гэтую місію да 2005 году.

Пахавальную службу ў ватыканскай базыліцы Сьвятога Пятра ў суботу, 5 жніўня 2006 году, узначаліў Дзяржсакратар Апостальскай Сталіцы кардынал Анджэла Садана. Ля труны сьвятой памяці Архібіскупа Габрыэля Мантальва сярод іншых маліліся таксама былы Апостальскі Нунцый у Беларусі Архібіскуп Дамінік Грушоўскі і Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыт Сяргей Гаек.

*Сакратарыят Апостальскага Візітатара для грэка-католікаў Беларусі*

# РПЦ супраць псеўдаасьветніцтва

Кіраўніцтва Беларускага Экзархату РПЦ запатрабавала, каб выдавец У.Чартовіч спыніў правакацыйную дзейнасьць ад імя Праваслаўнай Царквы. Менская епархіяльная Рада накіравала яму з гэтай нагоды пастырскае павучаньне. Дзейнасьць ЗАТ "Праваслаўная ініцыятыва", якое ўзначальвае сп. Чартовіч, царкоўныя ярархі называюць правакацыйнай і псеўдаасьветніцкай.

У пастырскім павучаньні гаворыцца, што асноўнай задачай закрытага акцыянернага таварыства "Праваслаўная ініцыятыва", створанага напрыканцы 1990-х гадоў Менскай япархіяй і Ўладзімерам Чартовічам, было "наталеньне патрэбаў праваслаўных грамадаў у богаслужбовай і асьветніцкай літаратуры". Аднак замест гэтай літаратуры на прылаўкі кнігарні "Праваслаўная кніга" сталі паступаць "выданьні сумнеўнага зьместу, якія адлюстроўвалі погляды раскольніцкіх груповак, і тэндэнцыйная перыёдыка" прарасейскага нацыяналістычнага кірунку. У асобных выданьнях выдавец "паспрабаваў сумясьціць неабальшавіцкія погляды на палітычныя працэсы ў сучасным грамадстве, грубы антысемітызм і хрысьціянскую фразеалогію".

РАЗАМ

СТАРОНКІ ГРЭКА-КАТАЛІЦКІХ СЕМІНАРЫСТАЎ, выпуск № 3 (23)-2006



# Пра сацыяльную дактрыну Каталіцкай Царквы

Хрысьціянская сацыяльная дактрына – арганічная частка навукі Царквы пра чалавека. Абвешчаная з першых стагоддзяў хрысьціянства, яна раскрываецца Каталіцкай Царквой у шэрагу дакументаў: найперш энцыкліках – *Rerum novarum* (*"Аб новых рэчах", 1891*), *"Qudragesimo anno"* (*"Чвэрць стагоддзя", 1931*), *"Mater et Magistra"* (*"Маці і настаўніца", 1961*), *"Pacem in terris"* (*"Мір на зямлі", 1963*), *"Populorum progressio"* (*"Прагрэс народаў", 1967*), *"Laborem exercens"* (*"Зьдзяйсьняючы працу", 1981*) і інш. ды таксама ў *Пастырскім Пастанаўленьні II Ватыканскага Сабору "Gaudium et spes"* (*"Радасьць і надзея"*) аб ролі Царквы ў сучасным сьвеце. З апошніх дакументаў варта асабліва выдзеліць прысьвечаныя грамадзкім пытаньням энцыклікі Яна Паўла II *"Sollicitudo rei socialis"* (*"Клопат пра сацыяльны дабрабыт", 1987*) і *"Centesimus annus"* (*"Сотыя ўгодкі", 1991*), якім характэрны ўсеабдымны глабальны падыход да ўсяго комплексу сацыяльных праблемаў сучаснага сьвету. Асноўныя пастулаты сацыяльнай дактрыны комплексна і сістэмна, хоць і ў сьціслай форме, прадстаўлены таксама ў Кампендыюме сацыяльнага вучэньня Каталіцкай Царквы.

У адрозьненьне ад любой ідэалогіі, сацыяльнае вучэньне Царквы не палітычнага, а рэлігійнага характару. Сацыяльная дактрына Царквы ня ёсьць нейкі трэці шлях паміж капіталістычным лібералізмам і марксісцкім калектывізмам, і нават не альтэрнатыва іншым палітычным плыням; яна сама па сабе зьяўляецца асобнай катэгорыяй. Гэта ёсьць вынік разважаньняў пра складаныя рэаліі існаваньня чалавека ў грамадзтве і міжнародным кантэксьце, у сьвятле веры і царкоўнай традыцыі. Яе галоўная мэта заключаецца ў кіраваньні хрысьціянскімі паводзінамі. Адсюль вынікае, што яна адносіцца да тэалогіі, а дакладней да маральнай тэалогіі.

Царква нясе перад грамадзтвам адказнасьць за Божую Праўду. Яна прапаведуе Валадарства Божае, якое пачалося тут, у Царкве Хрыста, але "не ад гэтага сьвету, які міне". Узрастаньне Валадарства Божага заключаецца ў тым, каб глыбей пазнаваць невымерныя багацьці Хрыстовы, узмацняцца ў надзеі на вечныя даброты, шчыра адказваць на Любоў Божую, не стамляючыся спрыяць пашырэньню сярод людзей Яго ласкі й сьвятасьці. Для хрысьціяніна ідэальным зьяўляецца той грамадзкі лад, пры якім чалавек можа выконваць волю Божую і весьці хрысьціянскі вобраз жыцьця, пры якім любоў будзе сталай і найвышэйшай нормай усякага дзеяньня.

Паводле кардынала Ёзафа Хёфнэра тэалагічная значнасьць хрысьціянскага сацыяльнага вучэньня абгрунтавана пяцьцю думкамі:

1. Чалавек – падабенства Божае, збаўлены крывёю Хрыста і пакліканы да вечнага жыцьця з Богам. Яго нельга прынізіць да ўзроўню рэчы й сродку дзяржаўных, грамадзкіх ці эканамічных працэсаў.

2. Хрыстос збавіў чалавека, як цэласнасьць, якая зьвязана з Ты і соцыюмам. Было б небясьпечным спрашчэньнем хрысьціянскага вучэньня аб чалавеку бачыць у ім толькі пакліканага Богам адзіночку.

3. Хрысьціянская сацыяльная дактрына падкрэсьлівае, што таксама і пасьля грэхападзеньня, як і да яго, існуе заснаваны на сацыяльнай прыродзе чалавека, г. зн. прыемны Богу сацыяльны лад сумеснага жыцьця грамадзтва. Яго падтрымка і яго завяршэньне паводле збаўчых прыпісаў Евангельля, яго будаваньне ў сьвятле хрысьціянскай навукі зьяўляецца прадметам хрысьціянскага сацыяльнага вучэньня. Бог не аддаў сьвет, які ўпаў, сваім праціўнікам.

4. З пункту гледжаньня Збаўленьня грамадзкім варункам належыць велізарнае значэньне ў выніку залежнасьці чалавека ад навакольнага асяроддзя. Сацыяльныя ўмовы, у якіх жывуць людзі і ў якія яны ўключаны з самага маленства, часта замінаюць рабіць дабро і падштурхоўваюць да злога. Варункі, якія супярэчаць Збаўленьню, напрыклад, стан нэндзы ў некаторых краінах – гэта тыя бедствы, якія клічуць на дапамогу, прычым ня толькі ў форме сацыяльнай крытыкі і міласьціны, але й у форме пераўтварэньня грамадзтва на прынцыпах Хрысьціянскай сацыяльнай дактрыны. Таму барацьба з беднасьцю, голадам, хваробамі, нястачай і галечай – хрысьціянскі абавязак. Заведамая адмова ад гэтага была б не падпарадкаваньнем волі Бога, а фаталістычным квіетызмам (*з лац. quies – пакой;* рэлігійна-этычнае вучэньне, якое прапаведуе прымірэньне з існуючым парадкам рэчаў), за гэта хрысьціянскую веру некаторыя дакараюць у тым, што яна нібыта зьяўляецца "опіюмам для народу".

5. Слова Божае, якое прыняло сапраўды чалавечую прыроду, уключаецца ў гістарычнае і сацыяльнае жыцьцё чалавецтва, таму той хрысьціянін, які б не карыстаўся сілай веры ў пытаньнях грамадзкага жыцьця, чыніў бы здраду ў адносінах да Богачалавека. Дзякуючы таму, што Хрыстос стаўся чалавекам, Царква зьяўляецца прынцыпам жыцьця чалавечага грамадзтва.

Непарушнымі прынцыпамі сацыяльнага вучэньня Царквы зьяўляюцца годнасьць чалавечай асобы, прынцыпы агульнага дабра, субсідыярнасьці і салідарнасьці. Царква сьцьвярджае недатыкальную годнасьць чалавечай асобы. Вартасьць і годнасьць чалавечай асобы пашкоджана грахом асабістым і грамадзкім. Грэх ня толькі раніць канкрэтную асобу, але таксама мае сацыяльныя наступствы, якія кормяць "грахоўныя структуры". Асноўныя патрабаваньні агульнага дабра й салідарнасьці – усеагульнае прызначэньне матэрыяльных і духоўных каштоўнасьцяў, а таксама асаблівая ўвага бедным. Прынцып дапаможнасьці мае на ўвазе ўдзел грамадзянаў у супольным жыцьці (дэмакратыя).

Сацыяльнае вучэньне разглядае сям'ю. Сьцьвярджаецца яе прыярытэт адносна грамадзтва й дзяржавы. Манагамны неразрыўны шлюб зьяўляецца адзінай аўтэнтычнай формай сям'і. Увядзеньне разводу ў грамадзкае заканадаўства ўзмацніла рэлятывісцкі погляд на шлюб. Грамадзянскі саюз заснаваны на хібным уяўленьні пра свабоду выбару. Заканадаўчае прыраўнаньне сям'і да грамадзянскага саюзу прывяло б да дыскрэдытацыі сямейнай мадэлі. Трэба паважаць асобу чалавека з гомасэксуальнай арыентацыей, што, зразумела, не раўназначна ўзаконьваньню такіх паводзінаў і прызнаньню правоў на шлюб паміж людзьмі аднаго полу.

Царква сьцьвярджае годнасьць працы як асноўнага права і дабра чалавека, якія дзяржава павінна забясьпечваць і абараняць. Прызнаюцца правы на забастоўку і прафсаюзы.

Працяг на с.11 ⇨

Тое, што час да часу сусьветны шоў-бізнэс можа ўзрадаваць гледача не зусім праўдзівым альбо яўна ілжывым фільмам пра хрысьціянства, Царкву альбо пра жыцьцё самога Хрыста, на Захадзе рэч ня новая. Былі стужкі, якія трапілі пад прамую крытыку Ватыкану, як да прыкладу "Апошняя спакуса Хрыста", рэжысэра Марціна Скарсэзэ (1988), іншыя ж улады Царквы прынялі са звычайным маўчаньнем. Наш, беларускі глядач ня мае вопыту такіх фільмаў, як апошні – "Код Леанарда да Вінчы", зьняты амерыканскім рэжысэрам Ронам Гоўвардам па аднайменным рамане Браўна. Ды й само ўспрыняцьцё мастацкіх фільмаў у нашай культурнай прасторы, думаю, зусім іншае, чым у заходне-еўрапейскага гледача, на якога ў першую чаргу фільм і быў разьлічаны.

азначае, што пісьменьнік альбо мастак ня мае мэты перадаць сучасьніку сапраўдную панараму рэчаіснасьці, а толькі імкнецца выявіць свае думкі, свой сьветапогляд, свае ўласныя ідэі. Хрысьціянства ў гісторыі, на няшчасьце, сталася вельмі атракцыйным матэрыялам для самых розных вынаходнікаў, каб на гістарычнай панараме дзейнасьці Хрыста і потым – Ягоных вучняў адлюстраваць сьвет уласных поглядаў, а часьцей нават прэтэнзіяў да сьвету.

На працягу вякоў шмат складалася розных легендаў і пасквіляў пра Хрыста і пра Царкву, якія існавалі побач з той гісторыяй, якую мы ня толькі ведаем, але ў якой, уласна кажучы, жывём. У такіх ці іншых выдумках, ведаючы эпоху, у якой яны паўставалі, можна чытаць, як з люстэрка, пра праблемы тагачаснае культуры цыі набіраецца мудрасьці і потым адкрывае ў сабе пакліканьне для заснаваньня сваёй уласнай школы духоўнасьці. Фільм быў прыняты з вялікім энтузіязмам на сусьветна-вядомым фэстывалі ў Венецыі і, безумоўна, пра сапраўднасьць фактаў не было нават найменшага пытаньня – гэта ня так важна. Галоўнае, для гледачоў, якія зрэшты на гэтым фэстывалі далёка ня шэрыя цікаўцы, што стужка закранула вельмі важныя праблемы сучаснага чалавека: як адкрыць у сабе часьцінку боства, знайсьці сваё месца ў сьвеце, сказаць нясьмела: ты таксама можаш стаць ня менш ведамы, чым Ісус, і гэтак далей... Словам, навошта тут якаясьці гісторыя.

Менавіта такі падыход да сваіх шэдэўраў, прынамсі паводле словаў гэтых аўтараў, мелі Д.Браўн і Р.Гоўвард. Што было важным для іх – гэта зрабіць сенсацыю,



а. Вячаслаў ПЯЛІНАК, *МІС*
*(Друя - Рым)*

# «А вы як кажаце, Хто Я ёсьць?»

## *Дэн Браўн адказвае Ісусу Хрысту*

На жаль, Ісус з Назарэту ня ўсімі сёньня спасьцігаецца як Сын Божы. Шмат сучасьнікаў успрымаюць Хрыста як аднаго з шматлікіх ідэолагаў, што праз вякі гісторыі пакідалі пасьля сябе розныя філасофскія плыні. А для многіх яшчэ сёньня Ён застаецца ворагам, Які то "адымае вольнасьць", то "дыктуе непасільныя правілы жыцьця". У тым, што з панарамы чалавецтва гэтая Асоба ніколі ня зьнікне і назаўжды застанецца самай яскравай, ня маюць сумневаў ні адныя, ні другія. Таму, калі нельга перакрэсьліць Хрыста ўвогуле, можна з Яго, прынамсі, учыніць карысьць уласным пажаданьням і амбіцыям.

### ЗАКАДАВАНЫЯ ПРАБЛЕМЫ ЦЫВІЛІЗАЦЫІ

Кожная кніга альбо фільм мае свой ідэйны сэнс. Нават калі мастацкі твор зьяўляецца гістарычным і адлюстроўвае рэальныя падзеі аб'ектыўна, у ім заўсёды знойдуцца тыя ці іншыя тэндэнцыі аўтара, што дапамагаюць перадаць канкрэтныя думкі, ідэі альбо пачуцьці. Калі ж творчая асоба ўжывае фантазію ў апісаньні гісторыі, мэтанакіравана зьмяняе рэальныя факты альбо замоўчвае асобныя падзеі, каб больш засяродзіцца на іншых, гэта і грамадзтва, пра розныя плыні і спакусы, што несьлі чалавечую думку да самых розных берагоў і прыстанішчаў.

Такім чынам, калі, да прыкладу, прагледзім мюзікал "Ісус Хрыстос – Супер-Стар", фільм "Апошняя Спакуса Хрыста" альбо возьмем у рукі раман Дэна Браўна "Код Леанарда да Вінчы", усе праблемы нашай сучаснай цывілізацыі выявяцца бы на далоні: нястрымная амбітнасьць усемагутнасьці, неўсьвядомлены страх перад будучай гісторыяй, што кожны дзень нараджае новае кола выдуманых жахлівых таямніцаў чалавецтва, непераможная духовая плыткасьць і ўрэшце фемінізм з дзікай спакушальнай афарбоўкай.

Мастацкі прыём маніпуляцыі фактамі ў падобнай творчасьці паволі становіцца нармальным. Хоць бы адным з такіх шматлікіх прыкладаў можа паслужыць фільм з 1998 году італійскага рэжысэра Алесандра д'Алятры "Райскія сады" (*"I giardini dell'Eden"*), у якім для адлюстраваньня Асобы Хрыста паслужыла не Евангельле, а апакрыфічныя (да таго ж яшчэ й не пазбаўленыя фантазіі сцэнарыста) запісы з Кумран. Ісус з Назарэту паўстае перад гледачом, як звычайны юнак, што ў розных школах усходняй традыпер态казаць у сваёй творчасьці яшчэ раз самыя хвалюючыя моманты сучаснасьці, прымусіць людзей паспрачацца. Са старонак часопісаў і з экранаў тэлебачаньня адразу пасьля прэм'еры фільму можна было пачуць сотні тлумачэньняў: гэта ж фікцыя, плод фантазіі. Цікава, што рэжысэр, паводле ягоных каментароў, не зьмясьціў на пачатку фільму надпісу пра выдуманасьць сюжэту толькі таму, каб не абразіць гледача гэтым недаверам да ягонай кемлівасьці. Безумоўна, у гэтую нявінную наіўнасьць паверыць вельмі цяжка, але як бы там ні было, кніга, што мае паважны аб'ём, дзякуючы экранізацыі, сталася даступнай амаль кожнаму, хто не паманіўся б перагортваць шматлікія старонкі раману.

### СТВАРЫЦЬ КОД

Фабула фільму вельмі простая й нават модная. Дэтэктыўныя прыгоды невялічкай групы людзей, якія на працягу адных толькі сутак нібыта ратуюць чалавецтва ад несьвядомай няволі, вызваляючы з крымінальнага палону Каталіцкай Царквы новую ідэю, якая пададзена так: Хрыстос быў жанаты на Марыі Магдалене, і іхнія нашчадкі жывуць у Францыі. Дзеяньні раз-

гортваюцца хутка ў вельмі модным сучасным стылі трылера з афарбоўкай сентыментальнага рамантызму.

Крытыкамі фільм быў ацэнены вельмі кепска. Знакаміты амерыканскі рэжысэр, які, дарэчы, атрымаў нядаўна прэмію за лепшы каталіцкі фільм году, на гэты раз ня змог захапіць гледача. Хіба празьмерная вернасьць заблытанаму сюжэту размыла ідэі і постаці герояў. Такім чынам, уражаньня добрага вiдовішча пасьля прагляду фільма сапраўды няма, а тое, што застаецца,– гэта брутальная, казыча сказаць — хворая, хлусьня.

Апакрыфічныя Евангельлі ад Філіпа й Магдалены, якія сапраўды існуюць, насамрэч нават ускосным чынам не перадаюць інфармацыі пра сувязь Хрыста й Магдалены. У першых вяках хрысьціяне ведалі пра існаваньне гэтых апокрыфаў, нават некалькі разоў гэтыя тэксты былі цытаваныя Айцамі Царквы, што перакрэсьлівае ўсялякія дапушчэньні пра "небясьпечнасьць гэтых твораў" хрысьціянства. Выкарыстоўваючы ўрыўкі з гэтых аповедаў у якасьці "сапенцыяльнай" *(лац. sapientia – мудрасьць)* літаратуры, першыя пастыры Царквы нават ня думалі пра тое, што апокрыфы могуць зьмяніць у сьвядомасьці вернікаў сапраўдную постаць Хрыста. Дарэчы, варта ўзгадаць, што доўгія вякі гэтыя тэксты былі невядомыя не таму, што Ватыкан іх хаваў ад людзей у тайных каморах пад сямю замкамі, а таму, што арыгіналы былі згубленыя ў Ягіпце і толькі ў 1945 годзе ў Гаак Хамадзе яны зноў былі знойдзеныя дасьледчыкамі.

Заблытаная легенда пра Сьвяты Грааль яшчэ раз была перапісана ў новай інтэрпрэтацыі, на гэты раз выгоднай нашаму сучасьніку. Паводле старажытнага паданьня, Келіх з Апошняй Вячэры (Тайнай Вячэры) быў занесены ў Брытанію Язэпам з Арыматэі, які клапаціўся пра пахаваньне Хрыста. У сярэднявеччы, як вядома, зацікаўленасьць такімі таемнымі рэчамі была незвычайна вялікая. Найбольш уплывовы на той час крыжацкі ордэн Тампліераў нібы меў перавезьці гэтую рэліквію ў Францыю. Першая легенда пра Келіх Хрыста, аднак, паходзіць з позьняга сярэднявечча – XII-XIII вякоў і мае не зусім гістарычны характар. Ведаючы гэтую эпоху, цяжка было б згадзіцца, што Келіх Ісуса ўвогуле мог захавацца да тых дзён, але нават не пра яго ідзе гаворка ў кнізе.

Сан Граль – французскі тэрмін гэтай рэліквіі — у рамане Д.Браўна набывае новы містычны сэнс. Сьвятая чаша – гэта ўжо ня рэч, а ўвасабленьне дынастыі Ісуса, наяўнасьці жаночай рысы боства, урэшце парадыгма Марыі Магдалены – сужонкі Збавіцеля. Зьмешваючы розныя традыцыі разуменьня сымболікі, спасылаючыся на самыя вядомыя творы мастака да Вінчы і ўрэшце пускаючы на поўны ход сваю ўласную фантазію, аўтар намагаецца ўстанавіць сувязь паміж Магдаленай, Рэліквіяй келіха і крыжацкімі ордэнамі.

Разьвіцьцё гэтай заблытанай ідэі Д.Браўн прапускае праз стагоддзі, беручы з розных эпох усё, што магло б служыць ягонаму новаму "евангельлю". Паводле яго, апостал Пётр, а потым і ўся афіцыйная Царква ненавідзяць Магдалену і ейных нашчадкаў. Сыёнскае брацтва – тайная супольнасьць, якая аберагае гнаную імі праўду й беражэ рэліквіі сужонкі Ісуса. Да гэтай супольнасьці належаць самыя вядомыя асобы гісторыі, і яны ў сваёй творчасьці перадаюць бясцэнныя ідэі наступным пакаленьням. Урэшце рэшт цела Марыі Магдалены знаходзіць сховішча пад вядомым на ўсім сьвеце Французскім Кавурам, а апошняя "пра-пра-праўнучка" Ісуса ўцякае ад паліцыі і тайных агентаў Каталіцкай Царквы па вуліцах Парыжу й Лондану...

Брацтва Сыёну, якое паўстала ў Ерусаліме, захопленым хрысьціянамі ў час крыжацкіх паходаў, было адной з шматлікіх супольнасьцяў, што клапаціліся пра рэліквіі Сьвятой Зямлі. Паўстала яно аднак, ня ў час "перасьледу" Пятром Магдалены, як сьцьвярджае аўтар, а толькі ў 1099 годзе. Гэтае таварыства сапраўды было злучана з крыжацкім ордэнам Тампліераў, але пасьля таго, як эстафету ў вайне супраць няверных у Ерусаліме пераняла Брытанія, а сам ордэн падвергся ганеньням з боку французскай каралеўскай дынастыі, сувязі зьніклі самі па сабе.

Урэшце прыгожы і ўнікальны храм у Парыжы, што быў пабудаваны з лініяй мерыдыяну ў 1737 годзе таксама трапіў у сьпіс тайных сховішчаў небясьпечнай таямніцы. Сьвятыня была пабудавана для беспамылковага вызначэньня сьвятаў Пасхі. Вокны і ўся сінхроннасьць асьвячэньня былі спланаваныя такім чынам, што ў 21-ы дзень сьнежня і сакавіка сонца дзівосна асьвячала азначаную бліскучым металам на падлозе лінію мерыдыяну. Увесь гэты цуд, аднак, быў зьнішчаны ў часы Французскай рэвалюцыі, што не перашкодзіла Браўну ўчыніць з гэтага знаку падказку да чарговых адкрыцьцяў і ў нашыя дні.

Такім чынам, у якасьці кодаў, альбо дзіўных рэбусаў, сталіся Тайная Вячэра й Мона Ліза Леанарда, магіла Ньютана і нават звычайная кветка ружы.

## УЗГАДАЦЬ УСЁ

У тым, што факты выдуманыя, ніхто, хіба, ня мае сумневу. Але што фільм пакіне пасьля сябе шмат брыдоты – гэта таксама амаль пастулат. Апраўдвацца перад такімі фактамі было б зусім не зразумела, але разам з тым трэба шукаць адказы на пытаньні, якія нам сёньня ставіць сьвет.

Ці Хрыстос можа быць надалей прыладай для ажыцьцяўленьня хворых амбіцый асобных людзей і матэрыялам для бізнэсу? Ці рэлігійныя пачуцьці хрысьціянаў павінны быць адкінуты для ідэй сучаснага масавага шоў, вальнадумства, альбо фемінізму? Урэшце, каму выгодна, каб Царква паўстала перад сучасьнікам у выглядзе ворага нумар адзін, якога трэба асьцерагацца?

Кім альбо чым сапраўды зьняволены чалавек? Якую праўду мы шукаем насамрэч? І што магло б супакоіць нашае сэрца? Прыслухоўваючыся да сёньняшніх антыклерыкальных галасоў, складваецца такая думка, што калі б зьнікла Царква, то сьвет мог бы прачнуцца ў новым сьвеце. Згадваюцца словы з вядомага рамана Маркеса "Сто год самотнасьці", дзе герой-вальнадумец кажа каханай: "Мы змагаемся з сьвятарамі, каб кожны мог жаніцца з кім хоча, нават сын з роднай маці". Ці сапраўды гэта мэта нашай барацьбы за вольнасьць сёньня?

Думаю, што было б дарэчы ўзгадаць і прыгожую гісторыю з таго ж твору, каб закончыць артыкул.

Маленькая дзяўчынка, што прыйшла да дзядзькі ў горад, прынесла пасяленцам страшную хваробу – страту памяці. Кожны дзень жыхары невялікага гораду забываліся назвы ўсё новых і новых рэчаў, не маглі пазнаць блізкіх асобаў. У вялікай роспачы, трацячы памяць кожны дзень усё больш і больш, людзі пачалі падпісваць рэчы. А на плошчы, каб не забыцца, зьмясцілі вялізны надпіс: *Бог існуе.*

У пошуках нашага сьвету, у шматлікіх прэтэнзіях і ў сітуацыі адкрытай балючай хлусьні, хіба самы час напісаць гэты сказ і нам, каб не баяцца прачнуцца заўтра.

# Пра сацыяльную дактрыну Каталіцкай Царквы

⇨ Пачатак на с.9

Царква асуджае сьмяротную кару – сучаснае грамадзтва здольнае пасьпяхова змагацца са злачыннасьцю спосабамі, якія абясшкоджваюць злачынцу, але не канчаткова пазбаўляюць яго здольнасьці зьмяніць свае жыцьцё.

Сацыяльнае вучэньне называе адну з небясьпек для сучаснай дэмакратыі – этычны рэлятывізм. Называючы абмен інфармацыяй адным з галоўных інструментаў дэмакратычнага ўдзелу, Царква надае ўвагу да феномена канцэнтрацыі друкаваных і тэлевізійных каналаў, як адной з пагрозаў дэмакратычнай сістэме.

Значнае месца ў сацыяльнай дактрыне выдзелена таксама пад праблемы міжнароднай супольнасьці, экалагічныя праблемы, абарону міру. Гвалт недастойны чалавека, таму што разбурае тое, што нібыта абараняе: годнасьць, жыцьцё, свабоду людзей. Рашуча асуджаецца генацыд, гонка ўзбраеньня, назапашваньне зброі масавага зьнішчэньня, уцягваньне дзяцей і падлеткаў ва ўзброеныя канфлікты. Безагаворачна асуджаецца тэрарызм, які нічым ня можа быць апраўданы, тым больш імем Бога: "Прафанацыя і блюзьнерства аб'яўляць мучанікамі тых, хто ўмірае, зьдзяйсьняючы тэрарыстычны акт – значыць скажаць паняцьце мучаніцтва".

Евангелізацыя сацыяльнага жыцьця – справа сьвецкіх хрысьціянаў, прысутнасьць якіх у грамадзтве ёсьць служэньне, знак і праява любові. Таму важна, каб хрысьціяне ведалі сацыяльнае вучэньне Царквы, бо грамадзкая дзейнасьць ня што іншае, як выразны спосаб служэньня людзям.

# Хрысьціянін і грамадзтва

У 1962 годзе адбываўся суд над Адольфам Эйхманам, нацысцкім злачынцам, арганізатарам дэпартацыі сотняў тысяч габрэяў. На працягу ўсяго працэсу Эйхман настойваў на тым, што ён быў толькі выканаўцам чужых загадаў. Ён ня выявіў ніякага пакаяньня ці якоганебудзь перажываньня за свае дзеі ў мінулым, ня выявіў таксама і асаблівай варожасьці ў адносінах да габрэяў. Перад судом стаяў "нармальны" чалавек, які ў той жа час аказаўся абсалютна ня здольны адрозьніваць дабро ад зла.

Царква надае вялікае значэньне годнасьці чалавечай асобы. Чалавек – вобраз і падабенства Бога, які збаўлены крывёю Хрыста і пакліканы да вечнага жыцьця з Богам. Выходзячы з факту Божага стварэньня і Збаўленьня, хрысьціянства вызнае сацыяльную прыроду чалавека.

Чалавек залежны ад іншых і ад грамадзтва ў цялесна-матэрыяльнай, духоўна-культурнай і маральнай сферах. Ні адна жывая істота не залежыць так моцна ад іншых у першыя месяцы і гады дзяцінства, як чалавек, у якога – у адрозьненьне ад жывёлаў – адсутнічае надзейнасьць прыроджаных інстынктаў. Чалавек перадае, дзякуючы традыцыі, выхаваньню й навучаньню свой вопыт і веды ад пакаленьня да пакаленьня. Кожная культура заснавана на супольным уладаньні духоўным здабыткам мінулых і сучасных пакаленьняў. Асабліва гэта датычыць маральных асноваў, якія захоўвае і абараняе Царква, якая прапаведуе запаведзі любові, ціхамірнасьці і самаахвярнасьці – Валадарства Божае.

Але сацыяльная прырода чалавека праяўляецца ня толькі ў зьнешняй залежнасьці ад іншых. Чалавек, як падабенства Божае, з аднаго боку, сацыяльны па сваёй прыродзе, г. зн. гатовы дарыць іншым уласнае духоўнае вартаснае быцьцё, а з іншага боку, імкнецца прымаць удзел у духоўным вартасным узбагачэньні іншых людзей. Узаемны абмен асабістымі вартасьцямі вядзе да стварэньня супольнасьці. У залежнасьці ад віду вартасьцяў гэтымі супольнасьцямі могуць быць шлюб, сяброўства, парафія, Царква.

Супольнасьць азначае – у шырокім сэнсе – любую форму працяглай сувязі людзей, якія маюць агульныя вартасьці і імкнуцца супольна зьдзейсьніць адну мэту. У гэтым плане прыналежнасьць да Цела Хрыстовага – Царквы – найбольш глыбока аб'ядноўвае людзей паміж сабой і Богам на падставе найвышэйшай вартасьці – любові. Пры гэтым гаворка ідзе не пра такую любоў, якая эгаістычна выкарыстоўвае іншага чалавека і зьвяртаецца да яго па-спажывецку, а пра любоў, якая праяўляецца ў гатоўнасьці да ахвярнасьці дзеля бліжняга і супольнасьці.

Дзякуючы духоўнай сувязі адзін з другім, людзі ў стане праявіць сацыяльныя дабрадзействы (любоў да бліжняга, вернасьць, праўдзівасьць, справядлівасьць, паслухмянасьць) і стварыць тыя вобласьці культуры, якія індывід ня мог бы стварыць адзін (мастацтва, навука, эканоміка).

Ваяўнічы атэізм, які лютаваў у сьвеце ў XX стагоддзі, сёньня адступае, пакідаючы за сабой мільёны людзей выхаваных у атмасферы індывідуалізму, абыякавасьці і духоўнага невуцтва. Секулярызм, што так хутка распаўсюджваецца, зьяўляецца сёньня выклікам усёй хрысьціянскай супольнасьці. Людзі, атручаныя абыякавасьцю, паніжаюць імкненьне да вечных вартасьцяў за кошт задавальненьня асабістых псіхічных, матэрыяльных і сэксуальных патрэбаў. Шмат з тых, што лічаць сябе хрысьціянамі, не прымаюць усёй сутнасьці веры, не паглыбляюць ведаў пра Бога і веру, ня лічаць абавязковым выконваць этычныя нормы веры. Сёньня шмат хто страшыцца пачуцьця бессэнсоўнасьці свайго жыцьця. Усё больш людзей жывуць блізка адзін ад аднаго, але адасобленa, яны замыкаюцца ў сабе. Чалавек акрэсьлівае свае жыцьцё адносінамі "тавар-грошы-тавар". Адмаўляюцца ўсе трансцэндэнтныя, надпрагматычныя, надэканамічныя вартасьці. Яны праштампоўваюцца ярлыкамі: "ілюзія", "утопія", "вар'яцтва", "глупства", "фікцыя", "падлеткавы максімалізм" ды інш. Сучасны ідэал чалавека – " чалавек рынку", "індывід эканамічны" (*"homo economicus"*), якога хвалююць толькі страх, камфорт, багацьце, улада.

У варунках размытасьці межаў паміж дабром і злом стала існуе рызыка ператварэньня людзей у крывавых пачвараў і забойцаў (феномен Эйхмана) ці ў тупых выканаўцаў чужых загадаў. Фармуецца так званы канфармізм мысьленьня – бескрытычнае прыняцьце намоўленай іншымі, перш за ўсё СМІ, інтэрпрэтацыі падзей, адмова прыняць сваю пазіцыю адносна іх. Бясконцыя патокі інфармацыі, што ідуць праз СМІ, ледзьве дазваляюць людзям у цішы заглыбіцца ў свае думкі. Чалавек зьбягае ў абязьлічанае: "так думаюць", "так лічаць", "так усе робяць". Іншым разам прасьцей раствaрыцца ў натоўпе шматтысячнага мітынгу, чым усьвядоміць сваю асабістую пазіцыю.

Ператварэньне матэрыяльнага дабрабыту ў найвышэйшую вартасьць, адсоўвае на задні план духоўнае і тым самым пагражае асобе чалавека. Танная рэклама і паток розных спакусаў наступаюць у тым жа кірунку. Сацыяльная значнасьць чалавека вызначаецца ня столькі службовым станам і адказнасьцю, колькі жыцьцёвым узроўнем, тым, што можна сабе дазволіць. Вера ў тое, што ў жыцьці ўсё можна ўладзіць, як ніколі ў гісторыі спусташае чалавека.

Для постсавецкай прасторы характэрна падпарадкаваньне духоўна-рэлігійных вартасьцяў нацыянальным. Палітыка падаўленьня нацыянальных пачуцьцяў, што праводзілася ў Савецкім Саюзе, дала зваротную рэакцыю пасьля яго распаду. Нацыяналізм, як любоў да бацькаўшчыны, пашана да роднай культуры і мовы, выродзіўся ў агрэсіўнае нястрыманае імкненьне абараняць інтарэсы адной нацыі шляхам таптаньня інтарэсаў другой. Многія пачалі думаць выключна катэгорыямі вяртаньня да перыяду найбольшай тэрытарыяльнай магутнасьці свайго народу, забываючы пра тое, што рэальнасьць у сьвеце цяпер іншая. У наяўнасьці эйфарыя нацыянальнай пыхі. Часта прыналежнасьць да той ці іншай канфесіі выкарыстоўваецца для дасягненьня нацыянальных ці палітычных мэтаў. Некаторыя палітыкі прымаюць удзел у набажэнствах выключна, каб палепшыць свой імідж. Царква ж паклікана выхоўваць рэлігійна-нацыянальную самасьвядомасьць такім чынам, каб чалавек не губляў пры гэтым у сабе пачуцьцё адказнасьці за ажыцьцяўленьне ў рэальным гістарычным жыцьці ідэалу хрысьціянства.

У сваёй рэлігійнай місіі Царква не зьвязана ні з якой канкрэтнай эканамічнай, сацыяльнай і палітычнай сістэмай ці формай культуры. Тым ня менш яна не ізалявана ад сьвету, але жыве ў ім. Чалавек павінен жыць у сьвеце, але не паводле пануючага ў ім духу зла. Госпад кажа апосталам: "Не малю, каб ты ўзяў іх са сьвету, але захаваў іх ад злога" *(Ян 17, 15)*. Хрысьціяне зазнаюць уплыў сьвету, успрымаюць яго культуру, падпарадкоўваюцца яго законам і прымаюць яго звычаі. Такое суіснаваньне са зьнешнім сьветам стварае праблемы. З аднаго боку, хрысьціянскае жыцьцё павінна стала сябе аберагаць ад усяго, што можа прывесьці да памылкі, скажэньня ці падаўленьня, нібыта выпрацоўваючы імунітэт супраць граху. З іншага боку, хрысьціянін павінен ня толькі прыстасоўвацца да спосабу мысьленьня і прызвычаеньняў людзкога сьвету, але і асвоіць іх, узбагавіць, удыхнуць у іх жыцьцё.

На духоўных пастырах ляжыць адказнасьць ня толькі быць сьвятлом сьвету, але прыкладаць усе намаганьні, каб гэтае сьвятло ня згасла. "Галасеце, пастыры, і стагнеце" *(Ер 25, 34)*... Духоўныя лідары, павінны больш за іншых дбаць пра духоўнае дабро народу Божага. Трэба бедаваць і аб тым, што ня ўсё зроблена для папярэджваньня падзелаў, варожасьці, адраджэньня жывога духоўнага жыцьця, сьвятыні ня толькі храмавага будынку, але перад усім сьвятыні ў сэрцы. Трэба шмат маліцца й самаахвярна працаваць, "ісьці і прыносіць плён", пашыраць Валадарства Божае на месцы свайго служэньня.

**семінарыст Аляксей ФІЛІПЕНКА**

**Над выпускам працавалі:**
Аляксей Філіпенка,
бр. Апалінар (Нікалаеў),
бр. Зьміцер (Чарнель)



**ПІШЫЦЕ НАМ:**
**razam@biz.by**

«RAZAM»
*W.S.D., ul.Kościelna 10, 17-312, Drohiczyn, POLSKA*

# Каб узьняцца на вышыню бацькоўства

***Нататкі з Ясіні ў Карпатах, дзе праходзілі варштаты для будучых інструктараў Міжнароднага руху бацькоўства***

Ва ўкраінскіх Карпатах знаходзіцца найвышэйшая гара Украіны Гавэрла – 2061 метраў над узроўнем мора. На падножжы гары разьляглася вялікая вёска Ясіня. Менавіта там з 14 па 19 жніўня 2006 году адбывалася сустрэча ініцыятараў стварэньня Міжнароднага руху бацькоўства. Трэнінг будучых інструктараў быў арганізаваны Фондам сьв. Кірыла і Мятода з Львова сумесна з партнёрамі з Кіева і Адэсы з Міжнароднага Цэнтру Бацькоўства.



***• Узыход на гару зьвязаны з высілкамі, калі іх ахвяруеш Богу, то ўзыход – гэта пілігрымка, падзяка за выкупленьне нашых грахоў.***
*(На фота: удзельнікі варштатаў на г.Гавэрла, аўтар артыкулу другі справа).*

Мэта лагеру ў Карпатах, якую паставілі яго арганізатары, – падрыхтаваць і навучыць будучых аніматараў Міжнароднага руху бацькоўства адпаведным ведам і практыкам, каб у будучыні яны маглі самастойна праводзіць навучаньне ў групах для мужчынаў, якія жадаюць быць сапраўднымі і адказнымі бацькамі.

Актыўны трэнінг на варштатах прымусіў добра папацець сабраных удзельнікаў, а пальмай перамогі стаўся ўзыход на гару як своеасаблівы сымбаль узьняцьця бацькі на новую прыступку да дасканалага.

Прысутнічалі на варштатах людзі з розных рэлігійных дэнамінацыяў і нават тыя, хто яшчэ не прыйшоў да Бога. Такіх розных бацькоў яднаў галоўны прынцып сустрэчы: у выхаваньні аснова маральнага стаўленьня бацькі да сваіх дзяцей павінна грунтавацца на Сьвятым Пісаньні. Падобна стаўленьню Бога да чалавека сучасныя бацькі таксама мусяць ставіцца і да сваіх дзетак.

Жыдоўскае слова *"аб" (бацька)*, зьявілася, імаверна, ад жыдоўскага дзіцячага слова *"абаб"* – тата. У Старым Запавеце яно ўжываецца для абазначэньня дарункаў і загадаў Творцы, што мае незыходнае значэньне для сям'і. Новы Запавет пацьвярджае старазапаветнае разуменьне бацькі, што падкрэсьлівае вялікую значнасьць прыказаньня "шануй бацьку свайго".

З Сьвятога Пісаньня мы бачым, наколькі істотная ***роля бацькі ў сям'і***:

1. Бацька ёсьць носьбітам Божых благаславенстваў *(Быц 27)*;
2. Бацька – галава сям'і *(Нав 24:15)*;
3. Бацька – улада, ён патрабуе паслушэнства пры любых абставінах *(Вых 20:12; 21:15; Высл 23:22)*;
4. Бацька – сьвятар у хаце *(Вых 12:3)*;
5. Бацька зьяўляецца абаронцам і карміцелем сям'і *(1 Цім 5:8)*;
6. Бацька – настаўнік сям'і і адказны за тое, каб жыцьцё ішло ў адпаведнасьці з Божым запаветам *(Вых 12:26; 13:14; Паўт 6:7, 20; 32:7, 46; Іс 38:19; Эф 6:1-4; Кал 3:20)*.

Вось жа вялікі і адказны цяжар ды гонар кладуцца на плечы бацькі. Каб адпавядаць такой вялікай задуме, хіба не аднойчы многія задавалі сабе пытаньне, на якое не маглі даць станоўчага адказу: "Ці здольныя мы, дарослыя айцы, заваяваць давер у сваіх дзяцей?" Гэта было, напэўна, добрай рэвізіяй сваіх уласных паводзінаў. Пра гэта ж з болем у бацькоўскім сэрцы дзяліліся ўдзельнікі сустрэчы.

Праблема прысутнасьці бацькі ў доме сёньня асабліва актуальная. Калі толькі ў выніку разводаў каля 40% дзяцей застаюцца бяз бацькі, то колькі яшчэ дадасца тых намінальна прысутных у сям'і бацькоў, якія не надаюць належнае ўвагі й клопату сваім сынам і дочкам. Нястача хрысьціянскага клопату найбольш яскрава выяўляецца ў сучасных стасунках людзей, асабліва ў сям'і, дзе растуць дзеці. Малітва для бацькі павінна стаць асновай для добрага выхаваўцы. Другаснай станецца тут наяўнасьць педагагічнай асьветы. Духоўнае разьвіцьцё чалавека кампенсуе брак іншай адукацыі. Бо Бог дае вышэйшую мудрасьць тым, хто стаіць перад Ім у малітве.

Вялікае захапленьне ва ўдзельнікаў сустрэчы мела шчырасьць размовы падчас варштатаў, абмен сваім досьведам, адкрыцьцё ўласных недахопаў.

Гэтая сустрэча паспрабавала зрабіць якасна новы крок на шляху разьвіцьця бацькоўскай ініцыятывы: былі прапанаваны напрамкі да дзеяньняў бацькоў, што шчыра прагнуць дапамагчы сваім дзецям у іх нялёгкім жыцьці. Спакусы сучаснасьці, кажучы нашай хрысьціянскай тэрміналогіяй,– спакусы гэтага сьвету, могуць надламіць нашых дзетак і загубіць кантакт даверу іх да свайго бацькі. Мяркую, што надыйшоў час і нам, каталіцкім бацькам Беларусі згуртавацца ў сваіх дачасных праблемах, стварыўшы рух актыўных бацькоў.

На сустрэчы прысутнічалі таксама дзеці. Да арганізатараў сустрэчы ёсьць заўвага: не была прадумана праграма для сустрэч дзяцей у групах. Ня гульні, а кантакты былі важныя таксама і ім, нашым дзецям.

Для пашырэньня руху бацькоўства ў нас у Беларусі трэба абавязкова стварыць беларускамоўную старонку бацькі пры сайце *tato.net* (сёньня інфармацыя пра рух бацькаў даступна на польскай, украінскай, ангельскай, расейскай мовах). У адваротным выпадку кантакт з Беларусяй, на які разьлічваюць стваральнікі руху, ня будзе актыўна разьвівацца.

Наступнай важнай падзеяй у разьвіцьці руху бацькоў будзе Міжнародная канферэнцыя для бацькоў, якая адбудзецца 27-29 кастрычніка 2006 году ў Адэсе ва Украіне (*Гл. дадатковую інфармацыю на сайце **www.tato.net***).

**Вітаўт ПАРФЕНЕНКА,**
*магістар тэалогіі,*
*г.Горадня*

# Папа: «Каб сьвет паверыў» – неабходна, каб мы сталі адзінымі

***12 верасьня, падчас свайго візіту ў Нямеччыну, Папа Бенядыкт XVI узначаліў экуменічнае набажэнства Вячэрні ў саборы Рэгензбурга. У набажэнстве прынялі ўдзел прадстаўнікі розных Цэркваў і царкоўных супольнасьцяў Баварыі, прадстаўнікі Лютаранскай Царквы і Праваслаўнай Царквы, а таксама чальцы экуменічнай камісіі нямецкай Біскупскай канферэнцыі.***

Падчас набажэнства, пасьля малітваў баварскага пратэстанцкага біскупа Фрыдрыха, праваслаўнага мітрапаліта Агастыноса і біскупа Рэгензбургскага монс. Герхарда Мюлера ды чытаньня Псальмаў Сьвяты Айцец меў казаньне, падчас якога, узгадваючы каталіцка-праваслаўны багаслоўскі дыялог, які днямі меўся распачацца ў Бялградзе, сказаў: "Я спадзяюся і малюся, каб гэтыя абмены меркаваньнямі прынесьлі плён і каб сулучнасьць з Богам жывым, Які нас аб'ядноўвае, як і сулучнасьць паміж намі ў веры, успадкаванай ад Апосталаў, паглыблялася і высьпявала да той поўні еднасьці, з якой сьвет зможа прызнаць, што Ісус Хрыстос – сапраўды пасланец Бога, Сын Божы, Збаўца сьвету (пар. Ян 17,21). «Каб сьвет паверыў» – неабходна, каб мы сталі адзінымі: сур'ёзнасьць гэтага абавязку павінна натхняць наш дыялог". Сьвяты Айцец падкрэсьліў таксама: "Быць сьведкам Ісуса Хрыста азначае ў першую чаргу сьведчыць пра пэўны лад жыцьця. У сьвеце, які поўным разгубленасьці, мы павінны ізноў даваць сьведчаньне пра арыенціры, якія робяць жыцьцё сапраўды жыцьцём... На хрысьціянах ляжыць адказнасьць, каб зрабіць бачнымі гэтыя арыенціры праведнага жыцьця, адкрытыя для нас у Ісусе Хрысьце".

***Прапануем чытачам газеты «Царква» трэцюю (заключную) частку Пасланьня Сіноду Біскупаў Кіева-Галіцкага Вярхоўнага Архібіскупства да духавенства, манаства і сьвецкіх вернікаў УГКЦ і да ўсіх людзей добрай волі з нагоды 60-й гадавіны Львоўскага псеўдасабору 1946 году*** *(гл. першыя дзьве часткі Пасланьня ў папярэднім нумары газеты).*

***Гэтае пасланьне пабачыла сьвет у Кіеве, 7 сакавіка 2006 году і падаецца важным і актуальным, бо праблемы, закранутыя ў ім, выходзяць за рамкі выключна ўкраінскіх праблемаў. Вось чаму ярархі Ўкраінскай Грэка-Каталіцкай Царквы прапануюць глыбока задумацца над гэтай трагічнай датай ня толькі сваіх вернікаў, але і ўсіх людзей добрае волі. Яны ўзгадваюць і даюць ацэнку ня толькі падзеям 60-гадовае даўніны і іх наступствам, але і сягаюць у сваіх разважаньнях глыбей – да часоў Берасьцейскай уніі. Параўноўваючы гэтыя адлеглыя па часе, але моцна зьвязаныя між сабой падзеі, аўтары пасланьня прапануюць задумацца найперш над тым, якія высновы для сябе павінны вынесьці з іх сёньня хрысьціянскія Цэрквы, каб "забясьпечыць хрысьціянскі характар нашай будучыні".***

***Асаблівую ўвагу грэка-каталіцкія біскупы ўдзяляюць праблеме "уніятызму", пра які сёньня так шмат і па-рознаму гаворыцца як праваслаўнымі, так і каталікамі. Ярархі разважаюць аб тым, што ёсьць сапраўднае зьяднаньне хрысьціянаў, якімі шляхамі ісьці да яго, і што ёсьць еднасьць уяўная, якая ўрэшце аказваецца домам, пабудаваным на пяску.***

# ПАСЛАНЬНЕ

**Сіноду Біскупаў Кіева-Галіцкага Вярхоўнага Архібіскупства**

*да духавенства, манаства і сьвецкіх вернікаў*
*Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы*
*і да ўсіх людзей добрай волі*

# з нагоды 60-й гадавіны Львоўскага псеўдасабору 1946 году*

### III

*За супакой на ўсім сьвеце,*
*добры стан сьвятых Божых Цэркваў*
*і зьяднаньне ўсіх*
*Госпаду памолімся!*

Дарагія ў Хрысьце! Дагэтуль мы разважалі пра падзеі, якія адбыліся ў мінулым, у прыватнасьці, над абставінамі і наступствамі афіцыйнай забароны Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы на Львоўскім псеўдасаборы 1946 году, сумныя ўгодкі якога сталі нагодаю для нашых разважаньняў. Вялікі жыцьцядайны ўрок нашага мінулага ў тым, што Царква, якая вырасла дзякуючы сваёй адкрытасьці да іншых і шчыраму жаданьню еднасьці, здолела выжыць насуперак забаронам і ліквідацыям і дала сьвету сапраўдных мучанікаў за веру. Геройчная стойкасьць УГКЦ супраць ганеньняў і перасьледаваньняў ня можа, аднак, адвярнуць нашых вачэй ад горкай рэчаіснасьці разьяднаньня і ўзаемных нападак, што трываюць і дагэтуль, частка віны і адказнасьці за якія ляжыць і на нас. Маючы такі розны гістарычны досьвед, мусім вырашыць, *на якіх прынцыпах мы павінны засноўваць сваю сёньняшнюю працу ды наш поступ у будучыню, каб прыйсьці да сапраўднага паяднаньня ў Хрысьце,* або, дакладней, вярнуць яго першасны характар, ня толькі як гістарычнай рэчаіснасьці, але як асновы хрысьціянскага быцьця.

Кожны, хто перажыў часы камуністычных перасьледаваньняў за веру, спазнаў гэтыя асаблівыя пачуцьці супольнасьці і салідарнасьці, што яднালі людзей,– пачуцьці, якія так узьвялічыў Збаўца: «Няма большае за тую любоў, як калі хто пакладзе душу сваю за сяброў сваіх» *(Ян 15, 13).* Менавіта такая еднасьць, выяўленая праз любоў да бліжняга, была той скалой, якую не адолелі сілы зла. У нялёгкіх абставінах катакомбавага існаваньня людзі адорвалі адзін аднаго ўзаемнай падтрымкай і бязьмежным даверам, жылі болямі свайго блізкага й лёгка ахвяравалі дзеля яго самым дарагім. І гэты дар згуртаванасьці Божай любоўю нашая Царква павінна была б належна песьціць і надалей.

За калючымі дратамі канцлагераў, у непраходных лясах і сьнягах сібірскай тайгі, пад пранізьлівымі вятрамі казахскіх стэпаў зьявіўся нам яшчэ адзін цуд еднасьці – яднаньне людзей розных Цэркваў і канфесій. Каталікі, праваслаўныя і пратэстанты жылі між сабою як сапраўдныя браты і сёстры. Іх яднаў у адно Цела крыж Хрыста, іх рабіла салідарнымі агульнае цярпеньне. Нават больш, у няроўным паядынку з бязбожнай уладаю поруч апынуліся ўсе тыя, для каго адзінай зброяй супраціву было натхнёнае Слова Творцы. Гэты «экуменізм ГУЛАГу» меў бы стаць духоўнай скарбніцай, з якой павінны б чэрпаць усе мы – ня толькі этнічныя ўкраінцы, але й расейцы, палякі, габрэі ды крымскія татары; вернікі і няверуючыя. Нашае заданьне ня проста захаваць памяць аб гэтым духоўным яднаньні, а пакласьці яго ў аснову нашага сёньняшняга дня, яшчэ больш разьвіць яго. І тады Ўкраіна – наш агульны дом – ператворыцца ў блаславёны край, у якім цесна будуць пераплятацца закон і Божая ласка, будуць гарантавацца асноўныя грамадзянскія правы і свабоды, будуць панаваць мір і згода.

Аднак, мусім выразна сьцьвердзіць, што сапраўднага паяднаньня немагчыма дасягнуць на аснове адной толькі людзкой салідарнасьці, пазбаўленай духоўнай асновы або абумоўленай наяўнасьцю агульнага ворага: бо як інакш растлумачыць той прыкры і нават ганебны факт, што як толькі гэтага акрытага ворага ня стала, мы зноў загразьлі ў віры сварак і разладаў ды праняліся духам суперніцтва і супрацьстаяньня? Гэты дух так захапіў нас, што мы й не заўважаем, як зноў самі ствараем сабе ворагаў, робімся ўразьлівымі адносна староньніх інтрыг, становімся немачнымі перад шматлікімі выклікамі гэтага сьвету. Усё гэта горкія плады таго, што да Бога і Яго Царквы мы панесьлі тое, што мела б застацца ў сьвеце зямнога кесара: палітычныя інтарэсы, людзкія амбіцыі ды згаданы дух суперніцтва. Нават нашыя, такія прыземленыя й дробязныя непаразуменьні мы гучна называем «міжканфесійнымі канфліктамі», нібы спрабуючы апраўдацца ў вачах Бога й выпрасіць у Яго высокую легітымацыю для нашых нягодных учынкаў. Напэўна, ня ўсё ў нас у парадку з тым, як мы верым, калі *так жывем і чынім* насуперак выразнай Гасподняй запаведзі: «Каб усе былі адно, як Ты, Ойча, ува мне, а я ў Табе» *(Ян 17, 21).*

Каб не патрапіць у безвыходнасьць і не разгубіцца ў безнадзейнасьці, мы павінны зноў зьвярнуцца да прыкладу нашых мучанікаў за веру, які дазваляе нам бліжэй адчуць тайну цярпеньняў і сьмерці нашага Збаўцы. Ён ведаў, што Яго чакае, ведаў, хто Яго будзе перасьледаваць і хто выдасьць на муку, хто проста «абмые рукі», а хто са страху зрачэцца ад Яго. І ведаючы ўсё гэта, прадчуваючы ўсе тыя духоўныя і цялесныя пакуты, якія давядзецца перацярпець, і нават проста па-чалавечы ўмольваючы адхіліць гэтую чашу, Ён добраахвотна бярэ на сябе крыж, бо такая ёсьць воля Айца, бо толькі так Ён можа адкупіць грахі чалавец-

> ***"Каб адшукаць дарогу, якая вядзе да Дому Айца, варта абавязкова зрабіць першы крок – вызнаць уласныя немачы і правіны. Дык жа перамяняйма свае сэрцы, будзем заахвочваць да гэтага нашых бліжніх, каб разам зьдзейсьніць пасхальны акт узаемнай пакуты і прабачэньня..."***
>
> *З Пасланьня Сіноду Біскупаў Кіева-Галіцкага Вярхоўнага Архібіскупства з нагоды 60-й гадавіны Львоўскага псеўдасабору 1946 году*

* *Заканчэньне. Пачатак у № 2 (49), 2006.*

тва сваёй бязьвіннай крывёй. Ён не праклінае і нават не дакарае сваіх катаў, а шчыра моліцца за іх. Такім чынам, сапраўдная вера – гэта паслушэнства Божай волі, гатовасьць спаўна выпіць чашу цярпеньняў, нават калі ёсьць магчымасьць пазьбегнуць яе, глыбокая перакананасьць, што Госпад не пакіне цябе нават у жорсткіх выпрабаваньнях: «Калі мы з Ім памерлі, то разам з Ім будзем і жыць» *(2 Цім 2, 11).*

Такая вера прадугледжвае ня толькі бязьмежнае спадзяваньне на Яго літасьць і ўсемагутнасьць, якой нашая Царква перш за ўсё ўдзячная за сваё выратаваньне, але і гатоўнасьць жыць, цярпець і нават паміраць разам з Хрыстом. «Бо так палюбіў Бог сьвет, што аддаў Сына Свайго Адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, а меў жыцьцё вечнае» *(Ян 3, 16).* Так і нашая Царква заплаціла крывёй сваіх лепшых сыноў і дочак за адкупленьне ці не найбольшага граху – людзкой пыхі, які зьяўляецца галоўнай прычынаю ўсякага разьяднаньня. Гэты грэх адчужае нас ня толькі адзін ад аднаго; значна страшней, што ён аддаляе нас ад Адкупіцеля роду чалавечага. Ніякія прамінальныя палітычныя або прагматычныя рацыі, якімі б важнымі ды карыснымі яны не здаваліся сёньня, ня могуць апраўдаць гэтага галоўнага разьяднаньня. *Вось жа, быць у еднасьці паміж сабою безварункова вымагае быць у еднасьці з Богам.* Бо Госпад сказаў: «Я – Лаза, а вы галіны; хто застаецца ўва Мне, і Я ў ім, той родзіць многа плоду» *(Ян 15, 5).* Такім зьяўляецца галоўная высноўа і ключ да пошуку адказаў на тыя пытаньні, якія мы імкнемся высьвятліць, асэнсоўваючы старонкі нашага нядаўняга мінулага.

Гісторыя апраўдала ахвярную вернасьць нашых продкаў справе царкоўнай еднасьці, бо, маючы глыбокую веру і цьвёрда трымаючыся сваіх абяцаньняў, мучанікі і вызнаўцы нашае Царквы былі зьяднаныя з Госпадам. Аднак стан еднасьці з Богам не прыпісаны да нас і не даецца навекі, а дасягаецца праведным жыцьцём. «Ня мудруй высока, а бойся...– нагадвае нам апостал Павел.– Даброць да цябе, калі жыцьмеш у даброці Божай, інакш і ты будзеш адцяты» *(Рым 11, 20-22).* Вось жа, паяднаньне з Госпадам не заўсёды мусіць завяршацца мучаніцкай ахвярай. Але каб адшукаць дарогу, якая вядзе да Дому Айца, варта абавязкова зрабіць першы крок – вызнаць уласныя немачы і правіны. Дык жа перамяняйма свае сэрцы, будзем заахвочваць да гэтага нашых бліжніх, каб разам зьдзейсьніць пасхальны акт узаемнай пакуты і прабачэньня: «І адзін аднаго абдымем; скажам "Браты!" і тым, што ненавідзяць нас, прабачыўшы ўсё дзеля Ўваскрасеньня». Толькі тады падступная сіла колішняга злачынства перастане атручваць нашыя помыслы, а душы мучанікаў і душы іхніх крыўднікаў знойдуць нарэшце супакой у неспасьціжных прысудах Гасподніх.

*Ад імя Сіноду Біскупаў*
*Кіева-Галіцкага Вярхоўнага Архібіскупства*
**+ ЛЮБАМІР**

# Берасьцейскія чытаньні: дзесяць гадоў пасьля

***24-26 жніўня 2006 году ў Львове адбыўся Міжнародны навуковы сімпозіюм "Берасьцейская царкоўная унія: перспектывы навуковага кансэнсусу ў кантэксьце нацыянальна-канфесійнага дыскурсу". Яго ладзіў Інстытут гісторыі Царквы – недзяржаўная навукова-дасьледчая ўстанова, створаная ў 1992 годзе з мэтай дасьледаваньня становішча Царквы ва ўмовах таталітарнага камуністычнага рэжыму. Сімпозіюм праводзіўся пры падтрымцы фундацыі "Pro Oriente", якая знаходзіцца ў Вене і ўжо некалькі гадоў падтрымлівае праект "Наступствы Берасьцейскай уніі".***

Удзельнікамі сімпозіюму былі навукоўцы шасьці краінаў (Украіна, Беларусь, Расея, Польшча, Аўстрыя, Канада) – найбуйнейшыя сьпецыялісты па Берасьцейскай царкоўнай уніі 1596 году і гісторыі Грэка-Каталіцкай Царквы. Сярод іх Яраслаў Ісаевіч, Барыс Гудзяк і Ігар Скачыляс з Львова, Натальля Якавенка і Васіль Ульяноўскі з Кіева, Леанід Цімашэнка з Драгобыча, Міхаіл Дзьмітрыеў і Сяргей Якавенка з Масквы, Тацяна Апарына з Навасібірску, Анджэй Гіль з Любліна, Сяргей Плохій з Эдмантана і іншыя. У працы сімпозіюму ўдзельнічала таксама кіраўніцтва фундацыі "Pro Oriente": прафесар Эрнст Крыстаф Сутнэр, прафесар Філіп Гарнонкур. Беларускую навуку прадстаўляў на сімпозіюме аўтар гэтых радкоў.

Удзельнікаў сімпозіюма гасьцінна прыняла Львоўская грэка-каталіцкая семінарыя, якая нядаўна пераехала ў новы будынак на ўскраіне заходнеўкраінскай сталіцы.

Арганізатары сімпозіюму (арганізацыйны камітэт узначальваў дырэктар Інстытута гісторыі Царквы, вядомы дасьледчык уніі Алег Турый) ставілі мэту ўзгадніць пазіцыі вучоных розных краінаў і навуковых школ з улікам новых напрацовак апошняга дзесяцігоддзя.

На працягу 1994-1996 гг. Інстытут гісторыі Царквы правёў серыю Берасьцейскіх чытаньняў – міжнародных канферэнцыяў, якія прайшлі ў шасьці сесіях, што адбыліся ў розных гарадах Украіны: Львове, Івана-Франкоўску, Кіеве, Днепрапятроўску, Харкаве, Луцку, Вужгарадзе і Пярэмышлі (Польшча). На гэтых чытаньнях абмяркоўваліся гісторыя заключэньня Берасьцейскай царкоўнай уніі 1596 г. (адсюль – Берасьцейскія чытаньні) і лёс Грэка-Каталіцкай Царквы Ўкраіны і Беларусі ў XVII ст. Тыя чытаньні атрымалі шырокі міжнародны рэзананс у навуковым сьвеце, а матэрыялы чытаньняў, выдадзеныя Інстытутам, сталі каштоўным укладам у сусьветную навуку.

І вось мінула 10 гадоў. Удзельнікі Берасьцейскіх чытаньняў працягнулі свае навуковыя дасьледаваньні. За гэты час імі, і ня толькі, выяўлены новыя архіўныя дакументы, пераасэнсаваны ўжо вядомыя крыніцы, па "берасьцейскай" праблематыцы зьявіліся дзясяткі новых артыкулаў, выйшла з друку некалькі салідных манаграфій, абаронена шэраг кандыдацкіх і доктарскіх дысертацыяў. Некаторыя з палажэньняў, што тады з цяжкасьцю прабіваліся ў навуку, сёньня сталі ледзь не аксіёмамі. І, наадварот, рашуча абвергнуты тыя стэрэатыпы царскай і камуністычнай гістарыяграфіі, якія яшчэ дзесяцігоддзе таму вучоныя толькі падверглі сумненьню.

З нагоды 410-ых угодкаў Берасьцейскай уніі, у апошнія дні лета ў Львове, вучоныя розных краінаў – гісторыкі, філосафы, філолагі, тэолагі, духоўныя асобы – у вострых дыскусіях зноў шукалі навуковага кансэнсусу адносна фенаменальнай зьявы еўрапейскай гісторыі, якой зьяўляецца Берасьцейская царкоўная унія.

На сімпозіюме адбылося 6 сесій: "Гістарычныя перадумовы Берасьцейскай уніі: факты і інтэрпрэтацыі", "Фактары заключэньня або запярэчаньня уніі", "Працэс зацьвярджэньня / процістаяньня уніі ў Кіеўскай мітраполіі", "Стаўленьне да царкоўнага расколу і уніі ў Рэчы Паспалітай", "Духоўна-культурнае жыцьцё", "Нацыянальная і канфесійная ідэнтычнасьць".

Берасьцейская унія разглядалася на сімпозіюме ўсебакова, у розных ракурсах, выходзячы з розных метадалагічных падыходаў. Погляды на яе дасьледчыкаў розных краін і нацый, навуковых школ, вядома ж, адрозьніваліся. Затое, здаецца, усе яны сыходзіліся на тым, што Берасьцейская унія – гэта знакавая зьява ў цывілізацыйнай прасторы, у якой беларускае і ўкраінскае грамадзтва імкнулася знайсьці сваё месца.

На закрыцьці сімпозіюму яго ўдзельнікаў вітаў Зьверхнік УГКЦ кардынал Любамір Гузар. Многія сучасныя праблемы, гаварыў ён, маюць карані ў мінуўшчыне. І гэтая навуковая сустрэча – яшчэ адзін крок у напрамку лепшага разуменьня, чаму пачаліся шматлікія цяжкасьці нашай Царквы і як іх вырашаць. Прыйшоў час, падкрэсьліў кардынал Гузар, калі трэба пра мінуўшчыну гаварыць праўду.

**Сьвятлана МАРОЗАВА,**
*доктар гістарычных навук*
*г.Горадня*

***Шаноўныя чытачы газеты «ЦАРКВА»!***

***Шчыра вітаем усіх нашых даўніх чытачоў газеты «Царква» і асабліва рады вітаць нашых шматлікіх новых падпісчыкаў! Молімся за ўсіх вас! Заўсёды рады Вашым допісам у газету, якія імкнемся па магчымасьці друкаваць на старонках газеты.***

***Хочам паведаміць Вам, што сёлета вызначаны ДНІ АСАБЛІВАЙ МАЛІТВЫ ЗА ЧЫТАЧОЎ ГАЗЕТЫ «ЦАРКВА». Гэта – 8 верасьня 2006 г., сьвята Нараджэньня Найсьвяцейшай Багародзіцы, і 6 сьнежня 2006 г. – успамін сьв. Мікалая цудатворцы.***

***У гэтыя дні Боская Літургія ў інтэнцыях усіх чытачоў газеты «Царква» будзе служыцца ў храме сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя ў Берасьці.***

***РЭДАКЦЫЯ***

*Протаярэй Мішэль Філіп Лярош належыць да Праваслаўнай Царквы ў Францыі (Archiprêtre de l'Église orthodoxe Michel Philippe Laroche). Ён зьяўляецца аўтарам кнігі "Малая Царква: Містычная прыгода шлюбу" ("Une Seule Chair: L'aventure Mystique Du Couple"). Сёньня прапануем заканчэньне яго артыкула (пачатак у мінулым нумары «Царквы»), які быў надрукаваны ў польскім каталіцкім часопісе "W drodze". Спадзяемся, гэты матэрыял, які паказвае погляд усходняга багаслова на праблемы інтымнага жыцьця, якія часам паўстаюць у шлюбе, будзе карысны для многіх сужонкаў, а таксама зацікавіць тых, хто яшчэ толькі рыхтуецца да сямейнага жыцьця.*

якое гаворыць тэкст Літургіі падчас Тайны шлюбу: "Дай нам дасканалую згоду душаў і целаў". Калі гэтай згодай адорвае нас Сам Бог, то яна сапраўды харызматычная, г. зн. зьвязаная з ласкай зьяднаньня, якая прысутная ў таямніцы шлюбу. Іншымі словамі, любоўны акт, перажыты ў шлюбе, чэрпае сваю моц з таямніцы, г. зн. з прадвечнай ласкі, а ня толькі з выключна чалавечых энэргій. Тут маецца на ўвазе таямнічае супрацоўніцтва паміж нястворанай энэргіяй Божай і створанай энэргіяй чалавека.

Калі гэта было б інакш, нельга было б гаварыць пра беззаганнасьць сужэнскага ложа. Гэтую беззаганнасьць дае толькі харызмат. Энэргіі чалавека надта кволыя і прамінальныя.

Такім чынам гармонія душаў і целаў зьяўляе распусты я бяру гэтую сястру маю за жонку, але з чыстым намерам" *(Тавіт 8, 6-7).*

Товія гэткім чынам паставіў зьяднаньне духоўнае перад цялесным, якое сталася ягонай пячаткай.

Малітва, якая папярэджвала інтымнае зьяднаньне (якое ў аповесьці пра Товію не было выканана ў першую ноч), выразна паказвае неабходнасьць духоўнага паяднаньня, каб супольна адрадзіцца ў Духу Сьвятым і знайсьці сапраўдную інтымную сувязь, якая выходзіць па-за звыклае пажаданьне. Тавія і яго жонка паўстрымліваюцца з цялесным збліжэньнем, пакуль ня будуць зьяднаныя духова праз малітву і ласку.

Цела не павінна тыранізаваць душу, але мусіць быць ёй падпарадкаваным. Гэтае праг-

а. Мішэль Філіп ЛЯРОШ

# ДУХОЎНЫЯ АСНОВЫ інтымнага жыцьця ў шлюбе

З інтымным жыцьцём сужонкаў павязана яшчэ адна праблема. І трэба пра яе гаварыць выразна. Размова ідзе пра фізічную адпаведнасьць. Ужо само гэтае акрэсьленьне, нават калі сёньня яно вельмі моднае, гучыць вельмі двузначна, бо адносіны жанчыны з мужчынам маюць іншы характар, чым тыя, што адбываюцца ў сьвеце жывёлаў. "Сэксуальная адпаведнасьць" ёсьць выразам аднолькава папулярным, як і не здавальняльным, бо пра пасьпяховасьць зьяднаньня ў вялікай ступені вырашае душа. Яе роля, пра якую сёньня так мала гаворань, ёсьць сапраўды падставовая.

(...) Размова пра фізічную згоднасьць, адарваную ад згоднасьці духоўнай, проста абсурд. Сэксуальныя стасункі сужонкаў зьяўляюцца дасканалым адлюстраваньнем іх духоўных адносінаў.

Сужэнскае ложа зьяўляецца чыстым і бязьвінным, бо выяўляе глыбокую духоўную гармонію тых, што яднаюцца ў самым цэнтры харызматычнай еднасьці шлюбу, блаславёнага і асьвячанага Богам.

Чысьціня і бязьвіннасьць паходзяць з сэрца і выяўляюцца ў целе, але з сэрца можа таксама паходзіць і выяўляцца ў целе парнаграфія, як сказана: "Добры чалавек з добрай скарбніцы <сэрца> выносіць добрае; а ліхі чалавек з ліхой скарбніцы выносіць ліхое" *(Мц 12; 35).*

Беззаганнае ложа – паводле словаў Апостала – гэта ложа, у якім сужонкі праз сваё духоўнае жыцьцё атрымалі ласку беззаганнасьці й чысьціні. Гэта ў поўні даецца падчас сьв. Тайны шлюбу.

Такім чынам, калі сужонкі асягнулі ўнутранае вымярэньне праз паглыбленьне харызмату сваёй еднасьці, яны здабываюць таксама вышэйшую ступень інтымных зносінаў. Яна сьведчыць пра зьяднаньне душы й цела, пра еўца адным са знакаў глыбокай лучнасьці сужонкаў. Бог удзяляе задатак гэтай глыбокай лучнасьці, у якім мужчына й жанчына атрымліваюць – як бы перадчасна – тое, што атрымаюць пазьней, калі іх зьяднаньне духоўнае будзе ўмацаванае і запячатанае.

Не існуе адпаведнасьць фізічная. Існуе сувязь духоўная, якая ўцелаўляецца ў інтымных стасунках. Яе чысьціня паходзіць з таго, што дзьве душы, зьяднаныя праз каханьне, імкнуцца адна да адной у таямнічай сустрэчы, у якой ушанаваным становіцца цэлае іхняе быцьцё – душа й цела.

Як жа можна было б паважна трактаваць інтымную адпаведнасьць, якая была б адарванай ад супольнага будаваньня, ад жыцьця духоўнага, ад спробаў ахвяраваньня адзін аднаму, урэшце ад акту праўдзівага каханьня, якое спраўляе, што "двое ёсьць адно цела" і "адна духоўная сутнасьць"?

Гэтую рэчаіснасьць духоўнага жыцьця шлюбу паказвае нам біблійнае апавяданьне пра Товію. Сара, заручаная Товіі, мела перад ім сем нарачоных: усе яны памерлі падчас сваіх першых шлюбных начэй, так і не зьяднаўшыся з ёй.

Рафаіл абвясьціў Товіі, што справа ў дэмане Асмадэі, які распаляў у жаніхах цялесную пажадлівасьць; яны хацелі зьяднацца з Сарай, не перажыўшы з ёй найперш духоўнай сувязі. Рафаіл радзіць Товіі маліцца з Сарай, а да таго ж асьвяціць іхні пакой, рытуальна спальваючы ўнутранасьці і сэрца рыбы. Товія ўчыніў так, як парадзіў яму Анёл. У сваёй малітве ён выразна сьцьвярджае: "Божа, Ты стварыў Адама, і стварыў для яго памочніка – Еву, жонку ягоную, і з гэтых дваіх паўстаў род людзкі. І Ты сказаў: Ня добра чалавеку быць самому, учынім яму памочніцу, падобную да яго. А зараз не для неньне духовага паяднаньня – як наймацнейшае – павінна прывесьці, каб цялеснае прагненьне было падпарадкавана душы; у рэчаіснасьці ж у гэты час яны супрацоўнічаюць між сабой.

Прагненьне ня можа далей заставацца звыклым інстынктам, яно мусіць перамяніцца праз харызматычнае каханьне сужонкаў, праз дараваньне сябе і праз поўнае ўшанаваньне іншай асобы.

Шлюб не дае права да інтымнага акту, але робіць мажлівым, каб гэты акт стаў без заганаў. Таму і сьв. Павел акцэнтуе на тым, каб "ложак сужонкаў быў беззаганны", чым зьвяртае ўвагу ня толькі на харызмат шлюбу, але, адначасова, на права кожнага з сужонкаў на жыцьцё ў беззаганнасьці.

Такім чынам, як паказала аповесьць пра Товію, "распуста" зьяўляецца прагненьнем разьвязным, непадпарадкаваным праўдзіваму каханьню, якое ёсьць дараваньнем сябе. "Распуста" — гэта дэспатычныя адносіны, у якіх адзін змушае другога, не чакаючы на духоўны саюз.

Гэтае духовае яднаньне праяўляецца ў двух асьпектах:

Першы – гэта ўнутраная гатовасьць дваіх да інтымнага збліжэньня, якое ў гэты момант здаецца згодным з воляй Божай. Распазнаньне гэтага моманту зьяўляецца справай інтуіцыі і ўзаемнай лучнасьці. Вельмі важным для жыцьця сужонкаў зьяўляецца адшукваньне гэтых хвілінаў, бо ў гэтыя моманты кожны ў твары другога бачыць Хрыста.

Спробы зьяднаньня без існаваньня такой еднасьці, якія вынікаюць са звычайнага пажаданьня ці з прызвычаеньня, не бываюць добрымі і не дапамагаюць разьвіцьцю духоўнага жыцьця сужонкаў. Менавіта таму толькі зьяд-

наньне з "чыстым намерам", як кажа Товія, дае багаты духоўны плён.

Другі асьпект, неаддзельны ад першага, у якім бачна разьвіцьцё гармоніі інтымнага жыцьця,— гэта доўгачасовае будаваньне ўдвох духоўнае сьвятыні. Калі гэтага ня будзе – ўсё будзе намарна.

Менавіта тут знаходзіцца беззаганнасьць і прыгажосьць сужэнскага ложку. Беззаганнасьць і бязьвіннасьць гэтага ложку дадзеныя ўсім людзям у таямніцы шлюбу як дар ласкі, але яны мусяць разьвівацца праз правільнае духоўнае стаўленьне. У духоўным жыцьці нічым не дапаможа ласка, калі разам з ёй ня будзе ісьці высілак добрай волі. Яна, у гэтым выпадку, робіцца дабравольна закапаным талентам. Аднак і высілак, пазбаўлены ласкі, ня можа прынесьці плёну, бо бракуе яму таленту.

У таямніцы шлюбу інтымныя адносіны зьяўляюцца дакладным адлюстраваньнем найглыбейшых духоўных стасункаў. Іх прыгажосьць і посьпех залежаць ад сувязяў, якія яднаюць мужа і жонку.

Ня можа быць штучнага разьдзяленьня розных вымярэньняў шлюбу. Хрыстос заўсёды клапаціўся і пра душу, і пра цела. Адкуль жа паходзіць гэтае жаданьне разьдзяленьня таго, што, наадварот, якраз глыбока зьяднана ў шлюбе? Калі паяднаньне дзьвюх душаў ёсьць пячаткай, знакам каханьня і дару сябе, то як жа інтымнае зьяднаньне магло б быць па-за гэтым каханьнем і гэтым дараваньнем сябе?

Відавочна, што цела выказвае ня толькі сваё ўласнае "слова". "Слова" таксама выказваюць дзьве душы, якія жывуць еднасьцю.

Эратызм у шлюбе супрацьстаўляецца парнаграфіі. Таямнічы эрас сужэнскага акту выходзіць па-за звычайную прыемнасьць. Поўня досьведу не існуе ў самотнасьці, таму насалода ананіста нясе расчараваньне й смутак, бо перажываецца эгаістычна. Насалода не зьяўляецца ані мэтай, ані выпрабаваньнем стасункаў, якія называюць "сэксуальнымі". Яна — праява, а час ад часу і інтуіцыя, сустрэча, якая адбываецца ў найглыбейшым, найбольш духоўным вымярэньні двух асобаў, якія кахаюць. Яна зьяўляецца "словам", якое выходзіць па-за цялеснае вымярэньне і, адначасова, перамяняе яго. Бо калі сужонкі супольна дасягаюць гармоніі ў інтымным жыцьці, то апынаюцца ўжо на беразе чагосьці больш узьнёслага, дзе змогуць перакрочыць цялеснае сужыцьцё, не пагарджаючы ім адначасова.

Тады чалавек асягае гэты таямнічы пункт часу і прасторы, які аддзяляе яго на момант ад рэшты сьвету. Словы пра "насалоду", пра "шуканьне прыемнага" ня толькі па-прасьцецку абмяжоўваюць багацьце сувязяў, якія яднаюць сужонкаў, але зьяўляюцца яшчэ і затрымкаю, нібы на ўзроўні альфабэту, без разуменьня таго, што яны служаць для будаваньня словаў, а потым – сказаў, якія маюць сэнс і дазваляюць людзям паразумецца адзін з адным.

Насалода не зьяўляецца, такім чынам, ані мэтай, ані сродкам, але зьяўляецца родам мовы, якая выходзіць з глыбіні двух зьяднаных істотаў, якія зрабілі ўзаемны выбар, а цяпер ушаноўваюць (услаўляюць) сваю еднасьць. Адсутнасьць насалоды сьведчыць пра існаваньне праблемаў, якія трэба вырашаць, каб гэтую еднасьць ізноў учыніць дасканалай. Імпатэнцыя, прахалоднасьць у адносінах зьяўляюцца своеасаблівай мовай, якую трэба зразумець, а не прадметам хворага абвінавачваньня ці знакам недахопу мужчынскасьці і жаноцкасьці.

У сваю чаргу, пагарджаньне насалодай, якое напрыклад зводзіць зьяднаньне толькі да функцыі працягу роду, нібы перакрэсьлівае гэтую мову і штучна разьдзяляе душу ад цела. Гэта перашкаджае таму, каб у твары другога зьявілася нешта, што час ад часу ня могуць перадаць людзкія словы і што ня зможа <бяз гэтага> распазнаць душа. Гэта ласка каханьня перамяняе зьяднаньне, чынячы яго сапраўды сьвятым, беззаганным і чыстым.

*Пераклад на беларускую мову*
***Алеся АЎДЗЕЮКА***

# Разьвітаньне з Янкам Брылём

***27 ліпеня 2006 году Беларусь разьвіталася з адным з выбітных сваіх сыноў – Народным пісьменьнікам Янкам Брылём. Паховіны прайшлі ў сьціплых абставінах: разьвітаньне з Народным пісьменьнікам адбывалася на яго кватэры ў шматпавярховым доме, а пахаваны Янка Брыль быў на могілках у Калодзішчах пад Менскам, згодна з яго воляй – побач з магілай жонкі.***

Трэба нагадаць, што пад канец жыцьця Янка Брыль пачаў цікавіцца сваімі хрысьціянскімі каранямі і Царквой. Гэта стала магчымым дзякуючы ягоным няспынным пошукам Праўды і Справядлівасьці, ягонаму тонкаму мастацкаму пачуцьцю і, канешне, таму факту, што Царква ацаніла яго творчасьць. У менскім каталіцкім выдавецтве "Pro Christo" апошнім часам было выдадзена дзьве ягоныя кніжкі.

Улічваючы прыналежнасьць Янкі Брыля да ўсходняй царкоўнай традыцыі, правесьці яго ў апошні шлях прыйшоў грэка-каталіцкі сьвятар айцец Андрэй Абламейка, які і благаславіў нябожчыка перад адчыненымі магільнымі дзьвярыма.

У нядзелю, 30 ліпеня ў Менску ў грэка-каталіцкай парафіі Праведнага Язэпа была адпраўлена паніхіда, падчас якой замагільны лёс сьветлай памяці Янкі Брыля быў аддадзены ў рукі Божыя. Перад паніхідай было зачытанае Разьвітальнае Слова Апостальскага Візітатара для грэка-католікаў Беларусі.

У той жа дзень, 30 ліпеня, у памяць пра Народнага пісьменьніка Беларусі Янку Брыля ўзносілі свае малітвы і ў беларускай грэка-каталіцкай парафіі ў бельгійскім горадзе Антвэрпане.

# Слова на Паніхідзе

## СЬВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ ЯНКІ БРЫЛЯ

Дарагія Браты і Сёстры, шаноўныя Сябры!

На мінулым тыдні адышоў з зямнога жыцьця сьвятой памяці Янка Брыль – выдатны беларускі пісьменьнік, сапраўдны волат беларускай культуры, шанаваны ня толькі ў Беларусі, але й па-за яе межамі.

На разьвітаньне з гэтым "чалавекам вялікай годнасьці" прыйшлі як людзі культуры і навукі, так і звычайныя грамадзяне, у тым ліку й моладзь. Над труной чалавека, які рупліва служыў сваёй Бацькаўшчыне, людзі розных вызнаньняў і традыцыяў засьпявалі ад сэрца:

*"Магутны Божа! Уладар сусьветаў...*
*Над Беларусяй, ціхай і ветлай, рассып праменьні свае хвалы".*

Сёньня, у нядзелю пасьля сьмерці заснулага Янкі Брыля, вернікі розных канфесіяў зьбіраюцца для малітвы за супакой ягонай душы.

Кожная нядзеля – гэта "малая Пасха", у якой Царква сьвяткуе Перамогу Ісуса Хрыста над злом, грахом і фальшам. Таму ў гэты нядзельны дзень, як хрысьціяне, хочам у сьвятле Пасхальнай Таямніцы Крыжа і Ўваскрасеньня Хрыста глянуць на жыцьцёвы шлях заснулага слугі Божага Янкі і маліцца за яго паводле багаслужбовай традыцыі роднай яму Ўсходняе Царквы:

*"Супакой, Госпадзе, слугу Твайго і пасялі яго ў раі,*
*дзе хоры сьвятых і праведных зьзяюць, быццам зоркі.*

Заснуламу слузе Тваайму дай супакой, не зважаючы на ўсе правіны ягоныя".

Сьмяротнае цела нашага заснулага Брата Янкі мы аддалі роднай беларускай зямлі, ягоную душу даручаем Міласэрнаму і Магутнаму Богу, Уладару сусьветаў.

Таго ж Магутнага і Міласэрнага Госпада пакорліва просім, каб з Ягонага Блаславеньня, прыклад вернага, адважнага і нястомнага служэньня свайму народу, які наш Брат Янка пакінуў усім нам, глыбока захаваўся ў сэрцах і сумленьнях маладых пакаленьняў ды каб натхняў іх шчыра й разумна любіць сваю Айчыну – Беларусь і дзейсна працаваць дзеля яе дабра.

Блаславеньне Гасподняе на ўсіх вас!

*Менск, 30.07.2006*

**+ Архімандрыт Сяргей ГАЕК**
**Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі**

# НАШЧАДКІ беларускага ўніяцкага сьвятара наведалі яго магілу

**_Мясьціны шматгадовай душпастырскай працы і магілу свайго знакамітага продка – беларускага каталіцкага сьвятара візантыйскага абраду і грамадзка-культурнага дзеяча а. Баляслава ПАЧОПКІ – 4-6 жніўня 2006 году наведалі яго нашчадкі з Польшчы. Варта заўважыць, што сёлета яны ўпершыню змаглі наведаць дакладна лакалізаваную, упарадкаваную і адзначаную 2 гады таму памятнай драўлянай каплічкай у выглядзе ўваскрослага Хрыста магілу ўніяцкага сьвятара, якая знаходзіцца на ледзь ўратаваных ад поўнага зьнішчэньня каталіцкіх могілках у м. Целяханы Івацэвіцкга р-ну._**

• *Баляслаў ПАЧОПКА ў маладосьці. (Падобна, у часы працы ў Вільні ў газеце "Biełarus", 1913-1915 гг. Фота з архіву сям' Пачопкаў).*

Каб пакланіцца і ўшанаваць памяць свайго славутага дзеда-сьвятара, які быў да таго ж рэдактарам першай беларускай каталіцкай газеты *"Biełarus"*, што выходзіла ў Вільні ў 1913-1915 гг., аўтарам адной з першых граматык беларускай мовы (на лацініцы), дырэктарам першай беларускай настаўніцкай семінарыі ў Сьвіслачы, вядомым публіцыстам, які друкаваўся ў "Нашай Ніве", у розных беларускіх і польскіх выданьнях міжваеннага часу, ды каб упершыню пабыць у мясьцінах, дзе прайшло дзяцінства іх уласных бацькоў (сыноў сьвятара – Пятра і Яна), з Польшчы прыехалі трое ўнукаў і праўнучка а. Баляслава Пачопкі: д-р Баляслаў Пачопка з дачкой Даротай і спн. Дарота Андрышук, якія жывуць у Беластоку, ды спн. Эльжбета Мендзыбродзкая з Варшавы. Пані Эльжбета працуе ў бібліятэцы Варшаўскага ўніверсітэту, яна зьяўляецца дачкой Пятра Пачопкі (1927 г. нар.), які адзіны з сямі дзяцей айца Баляслава і Марцыяны Пачопкаў яшчэ жыве. Менавіта Пётр Пачопка ў памяць пра свайго бацьку а. Баляслава ў 1999 годзе выдаў у Польшчы кніжку *"Kapłan unicki rodem z Wileńszczyzny"*.

• *Целяханы, 05.08.2006. Ля магілы а. Баляслава Пачопкі.*

• *Бабровічы, 05.08.2006. Праз Бабровіцкае возера на чоўне дабіраўся да сваіх парафіянаў уніяцкі сьвятар у в.Вяда.*

Лёс вялікай сям'і беларускага ўніяцкага сьвятара склаўся так, што адразу пасьля заўчаснай сьмерці 26 сьнежня 1940 году а. Баляслава Пачопкі (зьнясіленага рознымі маральнымі, падаткавымі і судовымі перасьледаваньнямі савецкіх уладаў), каб пазьбегнуць высылкі ў Сібір, яны вымушаныя былі таемна і на заўсёды выехаць з Бабровічаў на Віленшчыну, а па вайне – у Польшчу. У Беластоку, пражыўшы 79 гадоў, знайшла свой спачын у 1972 г. верная памочніца айца Баляслава Пачопкі яго жонка Марцыяна; тамсама жывуць сёньня і іх нашчадкі па лініі дачкі Стэлы і сына Яна.

Доўгі час у сям'і Пачопкаў лічылі, што в. Бабровічы і навакольныя вёскі з уніяцкай парафіі, дзе працаваў а. Баляслаў Пачопка, не існуюць, бо ведалі ад былога целяханскага ксяндза, што ў вайну фашысты спалілі гэтыя вёскі і іх жыхароў. І толькі ў 1989 г., падчас экскурсійнай паездкі ў Беларусь, Пётр Пачопка, які пажадаў замест экскурсіі ў Менск паехаць на каталіцкія могілкі ў Целяханы, каб адшукаць магілу бацькі, выпадкова даведаўся, што вёска Бабровічы адрадзілася і там нават яшчэ жывуць тыя, з кім ён некалі сябраваў у дзяцінстве...

У пілігрымцы Пачопкаў на магілу свайго дзеда-сьвятара іх

• *Айцец Баляслаў Пачопка і яго жонка Марцыяна з сваімі дзецьмі ў 1928 г. (З архіву сям'і Пачопкаў).*

• *Целяханы, 05.08.2006. Фота на памяць ля магілы сьвятара.*

суправаджалі супрацоўнікі рэдакцыі газеты "Царква" а. Андрэй Крот і аўтар гэтых радкоў, а таксама старшыня івацэвіцкай грэка-каталіцкай парафіі сп. Вячаслаў Гарчакоў, якія ў свой час спрычыніліся да ўшанаваньня памяці а. Баляслава Пачопкі. У Івацэвічах унукаў беларускага ўніяцкага сьвятара з Бабровічаў шчыра віталі мясцовыя грэка-католікі. Айцец Андрэй Крот адслужыў Боскую Літургію на сьвята Перамяненьня ў івацэвіцкай парафіі ў памяць пра выдатнага беларускага рэлігійна-асьветнага дзеяча і сьвятара, з падзякай Богу за яго служэньне Царкве і беларускаму народу. Гэтая сумесная малітва з нашчадкамі сьвятара была тым больш сымбалічнай, бо прыгадалася, што якраз сёлета, 25 ліпеня, споўніліся 80-ыя ўгодкі сьвятарства а. Баляслава – яго высьвяціў у Львове сам мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі – і менавіта 80 гадоў таму Б.Пачопка разам з сям'ёй прыехаў у Бабровічы для душпастырскай працы. (Дарэчы, цікава таксама адзначыць: а. Андрэй Крот, які нарадзіўся ў Бабровічах, прыйшоў на сьвет у раддоме ў Целяханах, у тым самым шпіталі, дзе адыйшоў у вечнасьць а. Баляслаў Пачопка...)

Пасьля Літургіі ўнукі а. Баляслава Пачопкі разам з групай грэка-католікаў наведалі мясьціны, дзе ён жыў з сваёй сям'ёй, дзе служыў і дзе пахаваны – в. Бабровічы і м.Целяханы. Памаліўшыся на магіле а. Баляслава Пачопкі ў Целяханах, накіраваліся ў Бабровічы. Там былі сустрэчы і размовы з баброўцамі, якія яшчэ памятаюць і шанують "уніяцкага бацюшку ды яго матушку" (яна трымала на сваіх руках ці ня ўсё старэйшае пакаленьне баброўцаў). Наведалі месца, дзе была некалі плябанія, дзе стаяла царква, збудаваная і ўпрыгожаная рукамі самаго Баляслава Пачопкі, а таксама мясцовыя могілкі, дзе растуць велічэзныя, у некалькі абхватаў, векавыя дубы, што былі сьведкамі ўсіх радасных і трагічных старонак гэтага старажытнага паселішча сярод палескіх лясоў, балот і азёр. Унукі Пачопкі не ўтрымаліся, каб хоць бы абмыць ногі ў Бабровіцкім возеры, праз якое іх дзед-сьвятар а. Баляслаў плаваў на лодцы да сваіх парафіянаў і вучняў школы ў няісныя сёньня (спаленыя фашыстамі) вёскі Вяда і Тупічыцы.

Была таксама цікавая сустрэча з мясцовым краязнаўцам сп. Веніямінам Бычкоўскім, які працуе ў целяханскай школе. Ён, хоць і прыехаў у гэты палескі куток з Расеі ўсяго гадоў з дзесяць таму, калі пасяліўся ў Бабровічах – загарэўся жаданьнем належна ўшанаваць памяць выдатнага беларускага ўніяцкага сьвятара. Напачатку яму даводзілася чуць і вельмі адмоўныя выказваньні пра сьвятара-ўніята. Так гаварылі пра айца Пачопку людзі чужыя, якія да таго ж трапілі пад уплыў таннай прапаганды. Пазнаёміўшыся бліжэй з постацьцю айца Баляслава Пачопкі, сп. В.Бычкоўскі быў моцна ўражаны і захоплены яго па-сапраўднаму шчырым і адданым хрысьціянскім служэньнем Богу. Тое духоўнае дабро, якое нёс мясцоваму люду айцец Пачопка нельга забыць, лічыць краязнаўца. Таму ён пачаў зьбіраць матэрыялы і фотаздымкі пра жыцьцё і дзейнасьць Баляслава Пачопкі, каб захаваць нескажоную памяць пра яго для нашчадкаў. Вось жа некаторыя фотаздымкі з сямейнага архіву Пачопкаў перадала яму для будучай музейнай экспазіцыі ў школе ўнучка сьвятара спн. Эльжбета Мендзыбродзкая. Краязнаўца марыць на прыватнай сядзібе побач праваслаўнай капліцы, фундамент якой ён заклаў, пабудаваць паменшаную дакладную копію ўніяцкай цэркаўкі, якую ўзьвёў у міжваенны час у Бабровічах а. Баляслаў Пачопка, каб там разьмясьціць невялікую экспазіцыю з матэрыяламі пра гэтага выдатнага чалавека.

У наступны дзень нашчадкі сьвятара пабывалі ў Косаве ў касьцёле, дзе хрысьцілі нацыянальнага героя Беларусі й Польшчы Т.Касьцюшку, пакінулі там запіс у кнізе ганаровых гасьцей. Агледзелі таксама Косаўскі палац і аднаўленую нядаўна сядзібу-музей Касьцюшкі ў Марачоўшчыне, дзе ў размове з супрацоўніцай музею аўтар гэтых радкоў таксама закрануў пытаньне пра ўшанаваньне памяці Баляслава Пачопкі.

Разьвітаньне з радзінай Пачопкаў было вельмі цёплым, са ўзаемным спадзяваньнем на новыя сустрэчы. За пару дзён, як напісала пазьней нам спн. Эльжбета з Варшавы, мы знайшлі ў Беларусі новую сям'ю. Здарылася так, што праз пару тыдняў неспадзявана памерла яе маці і жонка Пятра Пачопкі, які таксама пачуваецца ўжо вельмі слабым. Усьцешыць і разьдзяліць смутак сям'і Пачопкаў змаглі беларускія грэка-каталіцкія сьвятары дыякан Алесь Шаўцоў з Горадні і а. Андрэй Абламейка з Менску, якія знаходзіліся тады ў Польшчы і сьпецыяльна прыехалі на пахаваньне. Паводле сьведчаньня спн. Эльжбеты, уся радзіна была вельмі кранута і ўсьцешана: "Удзел айца Андрэя і дыякана Аляксандра ў пахаваньні мамы быў для нас вялікім суцяшэньнем. Айцец так добра, так цёпла сказаў напрыканцы Імшы, што ўсе былі ўзрушаны, нават асобы цалкам чужыя. Гэта быў прыгожы жэст, і ён меў вялікае значэньне для майго таты",– напісала яна.

Днямі атрымаў ад д-ра Баляслава Пачопкі з Беластоку ліст, з якога даведаўся пра стварэньне ім інтэрнэт-старонкі, прысьвечанай яго дзеду-сьвятару Баляславу. Пакуль што на пробнай старонцы зьмешчана невялікая колькасьць старых фотаздымкаў з сямейнага архіву, але ж спадзяемся, што гэтая цікавая ідэя будзе разьвівацца, нашымі сумеснымі намаганьнямі яна папоўніцца як сучаснымі, так і архіўнымі матэрыяламі пра жыцьцё і дзейнасьць выдатнага беларускага сьвятара і грамадзкага дзеяча. І, верыцца, памяць пра а. Баляслава Пачопку не загіне, пра яго будуць ведаць і помніць ня толькі ў Беларусі, але і ў Польшчы, дзе жывуць сёньня нашчадкі, і ў Літве, на Віленшчыне, дзе ён працаваў як беларускі грамадзкі дзеяч і дзе яго карані.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

# Візіт Бенядыкта XVI у Нямеччыну:

## ПАПА ЗАКЛІКАЎ «ПРЫСЛУХАЦЦА ДА БОГА»

Падсумоўваючы вынікі паездкі Бенядыкта XVI на сваю радзіму ў Баварыю, новы прэс-сакратар Ватыкану а. Федэрыка Ламбардзі (SJ) адзначыў: "Я думаю, што ў Папы застанецца вялікая радасьць ад таго, што ён атрымаў сілу і энтузіязм ад каранёў сваёй веры. Для мясцовай Царквы застанецца вялікае натхненьне, а для нямецкай Царквы і культуры – тэмы для роздуму".

У рамках свайго 6-дзённага візіту ў Нямеччыну, які пачаўся 9 верасьня, Пантыфік правёў сустрэчу за зачыненымі дзьвярамі з канцлерам Нямеччыны Ангелай Мэркель. Хрысьціянская еднасьць стала цэнтральнай тэмай гутаркі Папы Бенядыкта XVI з канцлерам Нямеччыны. Акрамя таго, прамова на сустрэчы таксама ішла пра хрысьціянскія карані Старога сьвету.

У Мюнхене ў нядзелю, 11 верасьня, Бенядыкт XVI на тэрыторыі новага Мюнхенскага кірмашу адправіў сьв. Імшу. На ёй прысутнічалі больш за чвэрць мільёна чалавек, у тым ліку прэзідэнт Нямеччыны Хорст Кёлер, прэм'ер-міністар Баварыі Эдмунд Штойбер, а таксама больш за 60 біскупаў і кардыналаў з розных краінаў. У сваім казаньні Папа заклікаў вернікаў «зьвярнуцца тварам адзін да аднаго, памяркоўна ставячыся да сьвятыняў іншых людзей». Яго Сьвятасьць бласлявіў прысутных на добрыя справы, са смуткам адзначыўшы, што ў апошні час людзі «усё радзей прыслухваюцца да Бога» і «забываюць Яго запаведзі», адна з якіх заклікае «любіць бліжняга». Таксама Бенядыкт XVI крытычна выказаўся ў адрас тых, хто дазваляе сабе «высьмейваць усё сьвятое, выдаючы гэта за свабоду меркаваньняў».

Паводле словаў тэлекаментатараў, «апладысменты, якія, насуперак прынятым традыцыям, неаднаразова перарывалі казаньне Папы, лішні раз паказалі, што новы зьверхнік Каталіцкай Царквы па-чалавечы зразумелы і блізкі пастве, што людзі ў яго прысутнасьці не саромеюцца выяўляць свае пачуцьці». Большасьць людзей пасьля сустрэчы з Сьвятым Айцом прызналіся, што былі ўсхваляваныя «простымі і яснымі словамі нашага Папы» – так шматлікія жыхары Нямеччыны завуць выхадца з Баварыі Бенядыкта XVI.

Больш за 150 тысячаў жыхароў баварскай сталіцы, а таксама паломнікаў з усёй Нямеччыны ды іншых краінаў віталі Бенядыкта XVI на вуліцах старой часткі Мюнхена, па якой прайшоў «папамабіль» спачатку на абед у рэзідэнцыю Мюнхенскага архібіскупа, а затым на Вячэрню ў катэдральную царкву Найсьвяцейшай Багародзіцы, якая зьмяшчае 20 тысячаў чалавек.

У гутарцы з тэолагамі, маладымі сьвятарамі і бацькамі, дзеці якіх у гэты дзень прынялі Першае Прычасьце Сьвяты Айцец заклікаў іх больш удзяляць увагі духоўнаму выхаваньні маладога пакаленьня, а пачынаць яго, паводле словаў Папы, трэба з рэгулярных сумесных нядзельных наведваньняў царквы.

12 верасьня Бенядыкт XVI выступіў з навуковай лекцыяй у Рэгензбургзкім універсітэце, дзе калісьці выкладаў тэалогію. На яго лекцыю 12 верасьня сабраліся каля 1500 навукоўцаў Нямеччыны. Выступ Пантыфіка быў прысьвечаны гістарычнаму дасьледаваньню ісламскага экстрэмізму і джыхаду. Папа распачаў свой выступ аб'ёмнай цытатай з ліста візантыйскага імператара Мануіла II Палеолага невядомаму мусульманскаму багаслову XIV стагоддзя. Але менавіта гэтае цытаваньне выклікала пасьля візіту вострыя каментары ў прэсе, неразуменьне і пратэсты ў мусульманскім сьвеце. Насамрэч жа Папа раскрытыкаваў не іслам, а заходняе грамадзтва, у духоўным крызісе якога Пантыфік бачыць прычыну пашырэньня мусульманскага экстрэмізму.

# 80-годдзе айца Аляксандра НАДСАНА

⇨ Заканчэньне са с.6-8



*• Лондан, капліца Беларускай Каталіцкай Місіі. Мітрафорны протаярэй Аляксандар Надсан служыць Боскую Літургію: у руках дыякана С.Стасевіча – "Лонданскае Евангельле".*

Вядомы беларусіст прафесар літаратуры Лонданскага ўніверсітэту Арнольд Макмілін ахвотна згадзіўся быць навуковым сурэдактарам разам з Ірынай. Пазьней да рэдактараў далучыўся й гісторык Генадзь Сагановіч. Практычна ўсе навукоўцы, якіх запрасілі да ўдзелу ў *Festschrift*'це, як беларускія, так і міжнародныя, вельмі ахвотна адгукаліся на прапанову ды дзячылі за гонар быць запрошанымі – і гэта нягледзячы на тое, што час для пісаньня артыкулаў быў ім дадзены зусім кароткі. І хаця запрасіць усіх, каго б хацелася, не ўдалося (пераважна праз тое, што проста фізічна не хапіла часу ўсім напісаць ці патэлефанаваць), колькасьць аўтараў на пачатак жніўня пераваліла за 60. Таксама да гэтага праекту далучыліся 20 паэтаў, прапанаваўшы ўпрыгожыць зборнік новымі вершамі.

Беларусістычная частка кнігі ахоплівае такія дысцыпліны як моваведаўства, археалогія, гісторыя, кнігазнаўства, скарыназнаўства, кітабістыка, літаратуразнаўства, фалькларыстыка і этнаграфія, культуразнаўства, музыказнаўства, права, а таксама тэмы беларускай дыяспары й Чарнобыля. У многіх з гэтых дысцыплінаў айцец Аляксандар пакінуў свой прыкметны сьлед. Адметна, што многія аўтары, зыходзячы з асобы юбіляра, прапанавалі артыкулы, што пэўным чынам закранаюць пытаньні рэлігіі й беларускай духоўнасьці. Багаслоўская частка мае 7 разьдзелаў: біблістыка, сістэматычнае багаслоўе, патралогія, літургіка, душпастырскае багаслоўе, Старажытны Блізкі Ўсход ды рэлігіязнаўства. Амаль ва ўсіх разьдзелах ёсьць тэксты на абедзьвюх мовах. Цешыць таксама й тое, што да ўдзелу ўдалося прыцягнуць амаль усіх колішніх гадаванцаў айца Аляксандра. Гэта будзе, бадай, першы зборнік артыкулаў у навуковым багаслоўі ў беларускім кантэксьце. А таксама гэта першы, наколькі нам вядома, міжнародны *Festschrift* для юбіляра-беларуса.

Увесь папярэдні зьмест зборніка быў выдадзены вельмі прыгожай каляровай брашуркай, якая й мусіла стаць непасрэдным "фізічным" падарункам юбіляру.

І вось у восьмы дзень восьмага месяца восьмага году (сума складнікаў у лічбе 2006) айцу Аляксандру Надсану споўнілася 80 гадоў. Раніцай у царкве сьвятых апосталаў Пятра і Паўла адслужылі літургію, падчас якой дыякан Сяргей сказаў літанію за здароўе сьвятара Аляксандра, і ў канцы службы хор прасьпяваў яму "многія леты". А ўвечары быў малебен падзякі, на які сабраліся ўсе, хто хацеў асабіста павіншаваць айца з днём нараджэньня. Абедзьве службы айцец Аляксандар адслужыў – нам на радасьць – у новых залатых шатах, якія таксама былі адным з нашых калектыўных падарункаў і якія Сяргей прывёз з Беларусі напярэдадні юбілею. Пасьля службы мы ўсе сабраліся разам у канферэнц-залі Беларускай каталіцкай місіі ўшаноўваць айца падарункамі (апрача нашых дзьвюх кніжак, там было яшчэ багата цікавых і арыгінальных рэчаў) ды словамі ўдзячнасьці й любові, што ішлі з сэрцаў людзей – айцовых паплечнікаў, пасьлядоўнікаў і прыяцеляў. І гэтая вечарына сталася, спадзяемся, першай часткаю "трохэтапнага" сьвяткаваньня айцовага 80-годдзя. Прэзентацыі *Festschrift*'у ў Менску і ў Лондане могуць стаць выдатнай нагодаю для шырэйшых колаў – як рэлігійных, так і навуковых, як беларускіх, так і міжнародных – выказаць сваю пашану гэтаму незвычайнаму чалавеку, якога неаднаразова называлі духоўным лідарам нацыі і нават "беларускім Далай-ламам". Хай заўжды будзе з ім Божае блаславеньне.

**Ірына ДУБЯНЕЦКАЯ**
**і Сяргей СТАСЕВІЧ**







*• Верхняя і ніжняя вокладкі ды старонкі з "Лонданскага Евангельля".*



Царква
грэка-каталіцкая газета
№ 3 (50), 2006

Адрас рэдакцыі:
вул.Дворнікава, 63
224014 г.Берасьце (Брэст)
Беларусь
Тэл./факс: (0162) 24-74-82
e-mail: bgkc_carkva@tut.by

**Выдавец:** Грэка-каталіцкая парафія сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя ў г.Берасьці
**Пасьведчаньне аб рэгістрацыі:** № 1055 ад 10.04.2006 г.
**Галоўны рэдактар:** а. Ігар КАНДРАЦЬЕЎ,
**Царкоўны асістэнт:** а. Андрэй СІДАРОВІЧ (MIC)
**Адказны рэдактар:** а. Андрэй КРОТ, STM
**Выпускны рэдактар:** Ігар БАРАНОЎСКІ
**Падпісана ў друк:** 15 верасьня 2006 году, а 23-50
**Паліграфічныя работы:** ПП В.Ю.А. (пасьв. № 02330/0131540 ад 30.04.04), вул.Мініна, 23-106, 220014 г.Менск. **Замова №166**
**Аб'ём** – 2,5 ул.-выд.аркушы. **Наклад** 7200 асобнікаў.

*НАШ РАХУНАК:*
*№ 3015200210017*
*у філіяле № 2/01*
*г.Берасьця*
*ЗАТ "Абсалютбанк",*
*МФО 150501242,*
*УНП 200558013*